ISSN 0320-7579

№ 9/2015(1048)

# БЯРОЗКА

№ 9

расці над сабой

**ЮЗАРЫ:**
«Не верыш у сябе — не выходзь на сцэну»

**ПІСАЦЬ ШПАРГАЛКІ... ТРЭБА!**
НАСТАЎНІЦКАЯ НА ПРАСЛУШЦЫ

**БЕЛАРУСКАСЦЬ ЯК**
мэйнстрым

**ЦІ КАМЕДЫЯ**
«Паўлінка»?

# НА РАСКОПКАХ
## і ў пошуку чорных буслоў

Малюнак Даны ЦЮПЕРАК.
Мінская гімназія-каледж мастацтваў

# Люстэрка варажбіткі Улі

***Прыватная калекцыя***



Самы малы млын у Беларусі. Пабудаваны ў 1936-м, рэстаўраваны ў 2013-м. Адзін камень з жорнаў заменены ў 1955-м, пра што ўтрымлівае на сабе пазнаку. Млын гэты можа малоць муку двух гатункаў — багатую на карысныя рэчывы абдзірную і больш «тонкую».



На сцяне ў рамцы — старадаўні рэцэпт хлеба. Злева — керамічны адстойнік для вяршкоў. Мяркуючы па тым, што большасць адстойнікаў была металічнай, керамічны варыянт — рарытэтная рэч.

Шалі з яўрэйскай лаўкі ў Міры. Такія шалі раней аздабляліся драконамі, русалкамі або птушкамі, як гэты экзэмпляр.





Ключ і кавалак абіўкі крэсла з палаца Пуслоўскіх у Косаве.

Збанкі для малака вывешваліся на плецены плот не для прыгажосці, а каб гліна падзарадзілася сонечнай энергіяй, якая праз напой перадасца чалавеку.

Люстэрка варажбіткі Улі, якая жыла ў XVII стагоддзі недзе пад Гарадзеяй. Гэта была добрая жанчына, таму глядзецца ў яе люстэрка — прыемна і карысна. Люстэрка ахоўвае чэрап ваўка. Сапраўдны.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінскі раён, вёска Хадакова, вуліца Расветная, 70.***



Мастачка Юлія УСАВА

# Ласка цёмнай ночы

Ласка цёмнай ночы.

Прасоўваючыся па велізарным горадзе, скараючы сабе ўсіх, мяняючы ўсё на сваім шляху, крочыла Ноч. Нябачным рухам яна тушыла святло ў вокнах, нібы даючы перапынак ад дзённых клопатаў.

Пустэча…

Толькі ліхтар-вартавы аддалена нагадвае пра госця па імені Сонца.

Але ніякі вартавы не параўнаецца з Небам, шчодра абсыпаным перлінамі, знакамі ўлады Ночы.

Ноч не супрацьлегласць Дню, а дадатак да яго — дабро, ласка і выгода, якіх ніхто не ўбачыць, але ўсе адчуюць. Ноч сама жадае, каб было так… Ноч сатрэ крыўды і дасць шанец нанова ўвасабляць задуманае. Але гэта днём, а пакуль яна беражэ сон…

Яна жадала б застацца, але час сыходзіць. Сонца — госць у валадарствах Ночы. Сонца — прадвеснік заўтрашняга Дня.

Цёмная Ноч…

Яна аддае сваё месца жыццю. Жыццю, якое не спыняла, а толькі замарудзіла. Замарудзіла і надарыла ласкай. Ласкай цёмнай ночы.

***Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ,***
***10 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***

# Вальс развітання

Восень. Павявае свежы ветрык...

Аднойчы надвячоркам я ішоў да бабулі і спыніўся ў захапленні ад убачанага: з дрэў падалі, павольна кружачыся ў паветры, лісточкі. Якія ж яны былі прыгожыя: жоўтыя, чырвоныя, аранжавыя, карычневыя. Якія розныя формы яны

мелі: кругляшыкі з дзюбкамі, зубчастыя эліпсы, трохкутнікі і ромбы. Найбольш заварожвалі кляновыя лісты — яны нагадвалі лапы невядомых істот.

Дзесьці непадалёк трымцела апошнім лісцем сямейка асінак, развітваючыся са мной да наступнай вясны. А ля самай дарогі стаяла бярозка і быццам плакала, адпускаючы на зямлю жоўтыя «слёзкі».

Я стаяў і любаваўся гэтым восеньскім святам, і мроілася мне, што лісты не проста апускаюцца на зямлю, а танцуюць вальс. Вальс развітання…

*Яўген ГРЫНКЕВІЧ,*
*8 клас, Слабадская СШ, Мядзельскі раён*

# Ты размаўляй са мной па-беларуску!

Ты спрабаваў хоць раз на роднай мове сказаць так слова ў ветлівай размове, каб закрануць за сэрцайка жывое, бо слова ёсць тваё, а не чужое?

Давай уявім, што аднойчы ранкам, калі смакуеш кавы філіжанку, па-беларуску ты пачуў:

— Вітанне! Мяне паклічаш сёння на спатканне?

Ці ноччу цёмнай, цёплай, рана-рана, пяшчотна нехта кліча нечакана…

Пабачыць незнаёмку я жадаю, па-беларуску ёй скажу: «Кахаю!..»

І нават сябра добры мовіць: «Браце! Наперад крок зрабі, каб распачаці, бо матчына гаворка — гэта шчасце! Ёй не дазволім на калені ўпасці!»

А дзеці палюбляюць гэту веліч:

— Цябе цікавіць дзядзька Караткевіч?

Бо беларускасць робіцца мэйнстрымам, ты з ёй адчуеш за спіною крылы!

— Чаму так атрымалася? — спытаеш.

Я ведаю, адказ ты адчуваеш, бо пачалося ўсё таму, што ноччу па-беларуску я сказаў аднойчы! Той сказ быў не пра неба сярод гаю, а толькі слова простае: «Кахаю!»

Ты паспрабуй, прынамсі, дзень адзіны — а заўтра…

Заўтра — гэта ўся краіна!

Ты маеш шанец — зараз ці ніколі, бо мова — гэта сімвал тваёй волі!

Таму не будзь у асяроддзі вузкім — ты размаўляй са мной па-беларуску!

*Павел БУШКОЎ,*
*10 клас, Ялізаўская СШ, Асіповіцкі раён*

*Казкі школьнага ранца*

# Апостраф і Мяккі знак

*(лінгвістычная казка)*

Аднойчы Гукі і Літары заспрачаліся. Галосныя крычалі, што толькі яны сапраўдныя. Зычныя трымаліся сваёй думкі. Мяккія маўчалі. У іх не было

сталага меркавання. А глухія… Тыя нікога не хацелі слухаць. На Мяккі знак і Апостраф увогуле ніхто не зважаў. Ці ёсць вы, ці няма вас — ніякай розніцы.

Пакрыўдзіліся Апостраф і Мяккі знак ды пакінулі алфавіт. А Літары і Гукі склалі сказ: «У гэты дзен адбылася цікавая зява». Паглядзелі Літары на сказ і ўбачылі, што не хапае Апострафа і Мяккага знака. Сабраліся Літары на свой алфавітны сход і пачалі думаць, што рабіць. Літара А прапанавала адправіцца на пошукі. Так і зрабілі.

Праз некалькі гадзін Літара А знайшла ўцекачоў і доўга прасіла вярнуцца.

Зноў сабралі алфавітны сход. Як толькі на сход з'явіліся Апостраф і Мяккі знак, сказ адразу змяніўся: «У гэты дзень адбылася цікавая з'ява». Усе літары папрасілі прабачэння ў Апострафа і Мяккага знака. З гэтага часу ў Алфавіце быў поўны парадак.

*Юлія ПРАСЯНЦОВА,*
*10 клас, Сакалоўская СШ, Чэрыкаўскі раён*

# Бяроза і Шыпшына

Жылі ў лесе на светлай паляне маленькае дрэўца Бярозка і маленькі кусцік Шыпшына. Добра ім было разам. Пілі смачныя зямныя сокі, радаваліся сонейку. А калі налятаў вецер, хіліліся адно да аднаго. Так было цяплей і спакайней.

Але Бярозка пачала пераганяць Шыпшыну ў росце. Ужо зверху паглядала яна на прыгожыя ружовыя кветкі. А яны ўсё больш зацяняліся, хутка адцвіталі і мала ўсміхаліся.

У адзін з ветраных дзён адвярнулася Бярозка ад Шыпшыны і нахілілася да долу, колькі змагла. Не зразумеўшы яе намеру, Шыпшына пакрыўдзілася.

Прайшло лета. Кусцік Шыпшыны падрос, падужэў. На ім спачатку з'явілася шмат кветак, а бліжэй да восені — смачных чырвоных пладоў. І тут толькі Шыпшына зразумела, што Бярозка проста дапамагала ёй расці.

Бярозка ж так і засталася назаўсёды выгнутай убок, але была шчаслівая, бо захавала жыццё сяброўцы, прыгожай Шыпшыне.

*Дар'я ЛІХТАР,*
*7 клас, Вялічкавіцкая СШ, Салігорскі раён*

# Як фортка на дзяцей пакрыўдзілася

Жыла-была фортка. Жыла яна ў адной кватэры з хлопчыкам Кастусём, дзяўчынкай Насцечкай і іх маці.

Аднойчы, калі маці пайшла на працу, Кастусь сказаў Насцечцы:

— А давай пагуляем з маімі машынкамі!

— Вось яшчэ! — скрывіла вусны Насцечка. — Давай лепш з маімі лялькамі пагуляем!




— Не жадаю я з тваімі «барбі» важдацца! — махнуў рукой Кастусь. — І наогул, нешта горача стала. Пайду фортку адчыню!

Ён узлез на крэсла і расчыніў фортку.

— Табе горача, а мне холадна! — сказала Насцечка. — Таму трэба фортку зачыніць!

І яна хуценька зачыніла фортку.

— А я кажу: горача! — закрычаў Кастусь, зноўку расчыняючы фортку.

— А мне — холадна! — стаяла на сваім Насцечка, зноўку яе зачыняючы.

І так яны шмат разоў то адчынялі, то зачынялі фортку, хоць на самай справе ім было і не горача, і не холадна. Проста Кастусю стала крыўдна, што Насця не захацела гуляць у машынкі, а Насцечка пакрыўдзілася за тое, што Кастусь не стаў з ёй у лялькі гуляць.

А фортка з рыпеннем то зачынялася, то адчынялася і, нарэшце, таксама пакрыўдзілася на дзяцей.

«І чаму гэтыя дзеці такія няпэўныя? — з горыччу падумала яна. — Самі не ведаюць, чаго жадаюць! І чаму я, старая паважаная фортка, павінна з-за іх так пакутаваць?!»

І фортка вырашыла больш не адчыняцца аж да таго часу, пакуль дзеці не папросяць у яе прабачэння. І калі Кастусь зноўку паспрабаваў адчыніць фортку — нічога ў яго не атрымалася.

— Фортка не адчыняецца! — закрычаў ён. — Гэта ты, Насцечка, яе зламала, калі зачыняла!

— А вось і не я! — таксама закрычала Насцечка. — Гэта ты яе зламаў, калі адчыняў!

Дзеці пачалі спрачацца і спрачаліся аж да таго часу, пакуль не вярнулася маці. А потым усё ёй расказалі.



*Аўтар гэтай казкі атрымлівае падарунак ад часопіса «Бярозка» — кубачак для самай смачнай у свеце гарбаты. Падарунак чакае Соф'ю ў рэдакцыі на Незалежнасці, 39 у Мінску кожны дзень, зранку да вечара.*

А маці засмяялася і сказала:

— Фортка не зламалася. Яна проста пакрыўдзілася на вас.

— І што нам зараз рабіць? — у адзін голас запыталіся Кастусь і Насцечка.

— Трэба папрасіць у форткі прабачэння, — сказала маці.

— Прабач нас, фортка, — сказаў Кастусь.

— Мы больш не будзем цябе туды-сюды торгаць! — дадала Насця.

Тут фортка крыху прыадчынілася і сказала рыпучым голасам:

— Добра, я вам дарую!

Вось так шчасліва ўсё закончылася, і далей мірна зажылі ў адной кватэры хлопчык Кастусь, дзяўчынка Насцечка, іх маці і старая фортка.

***Соф'я АКУНЕВІЧ,***
***4 клас, СШ № 90, Мінск***



*Мастачка Дана ЦЮПЕРАК,*
*Мінская гімназія-каледж мастацтваў*

***Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі — 25 гадоў. Віншуем з юбілеем і ў якасці падарунка друкуем вершы ўдзельнікаў паэтычнага конкурсу «Піянерыя, піянерыя, свята ўсіх беларускіх дзяцей», які праводзіўся ў рамках III рэспубліканскага збору «Я піянер сваёй краіны».***

## Я — ПІЯНЕР!

Вось змоўклі ўсе словы,
Прыціхлі калоны…
Здаецца, і ветрык лістоў не кране,
Бо гальштук агністы,
Зялёна-чырвоны,
Настаўнік з надзеяй павязвае мне.

І рукі ўздымаюцца ў гордым салюце.
Даём абяцанне Радзіме служыць,
Бо мы — піянеры!
І ведаюць людзі,
Што будзем Радзімай сваёй даражыць!

***Марына АНКУДОВІЧ,***
***12 гадоў, Суклінская СШ, Глыбокскі раён***

## ПІЯНЕР, БУДЗЬ ЗАЎСЁДЫ ГАТОЎ!



Зноў чуваць піянерскія горны,
Заклікаюць збірацца сяброў.
Чутны з раніцы покліч задорны:
«Піянер, будзь заўсёды гатоў!»

Нас вядуць неспазнаныя далі,
Нам працягваць справы бацькоў.
Нам яны назаўжды наказалі:
«Піянер, будзь заўсёды гатоў!»

Мы да ведаў імкнуцца павінны,
Кожны дзень, на працягу гадоў.
Быць дастойнымі клічу краіны:
«Піянер, будзь заўсёды гатоў!»

Да вяршынь мы рыхтуемся новых,
І пачуць для нас радасна зноў
Прывітальнага закліку словы:
«Піянер, будзь заўсёды гатоў!»

***Алена БАЎТРУКЕВІЧ,***
***12 гадоў, Крупская гімназія***

## ПІЯНЕРСКАЕ ЗВОНКАЕ ЛЕТА

Піянерскае звонкае лета
Цёплым сонейкам абагрэта
І авеяна ветрыкам раннім,
Што блукае ў лясах на змярканні.
Піянерскае звонкае лета,
Цябе ткалі з красы розных кветак,
З рэха чыстай крыштальнай крыніцы,
З мігацення вячэрняй зарніцы.

***Выраз «хлопчык для біцця» пайшоў ад назвы рэальнай пасады пры англійскім каралеўскім двары ў XV стагоддзі. Гэта быў сын аднаго з дваран, які з дзяцінства выхоўваўся разам з прынцам. Калі прынц сваволіў — пакаранне атрымліваў хлопчык для біцця.***

Наша лета…
Цябе мы чакаем!
Як найлепшага сябра вітаем!
Шмат ёсць填 мараў у нас, спадзяванняў,
Патаемных імкненняў, жаданняў.
З нецярпеннем цябе мы чакаем,
Столькі розных задумак мы маем.
Піянерскія горны склікаюць —
Піянераў да спраў запрашаюць.

*Святлана ЖЫЖКО,*
*13 гадоў, СШ № 3, Нясвіж*

## ПІЯНЕРСКІ ГАЛЬШТУК

Як завяжаш гальштук —
Сэрцам маладзей!
Быў не раз прабіты
Ён на грудзях дзяцей.

Піянерскі гальштук —
Сведка слаўных спраў.
Ад крыві юнацкай
Ён чырвоным стаў.

А зялёны колер —
Быццам Беларусь,
Роснымі лугамі
Вышыты абрус.

Знак народнай славы
На грудзях ляжыць.
Ты расці, вучыся,
Гальштук беражы!



*Аксана ЗМІТРУКЕВІЧ,*
*14 гадоў, Азёркаўская СШ, Мастоўскі раён*

## ПІЯНЕРСКІ МАРШ

У грудзях не патухне натхненне,
Мы імкнёмся да велічных спраў.
Піянер — гэта сэрца гарэнне,
Каб дарэмна і дзень не прапаў!
Ганарымся Радзімай сваёю,
Пра яе нашы песні пяём.
Піянерскім упэўненым строем
Мы ў цудоўнае заўтра ідзём.

Мы — бацькоў і дзядоў нашых змена!
Сцяг іх будзем высока трымаць!
Будзем хутка мы працай сумленнай
Дарагую краіну ўслаўляць!

Нам дарогі яна пракладае,
Вучыць смела па іх нас ісці,
Па-бацькоўску на нас паглядае,
Долі, шчасця жадае ў жыцці!

*Вікторыя ЛЯШКЕВІЧ,*
*13 гадоў, вучэбна-педагагічны комплекс «Дзіцячы сад-сярэдняя школа п. Шэршуны», Мінскі раён*



## РАЗМОВА ПАКАЛЕННЯЎ

Мы аднойчы з дзядулем
Размову вялі:
Як жывуць піянеры
На нашай зямлі.

«Піянер, — кажа ён, —
Гэта вельмі пачэсна!
Гэта гонар і слава,
Высокае месца!

Піянер — той, хто першы,
Хто прыклад пакажа,
Піянер — той, хто лепшы,
Слова справай дакажа!»

Падтрымаў я размову:
«Праўду кажаш, дзядуля!
Піянер верны слову…
І табе так скажу я:

Не пакрыўдзіць малога,
Паважае старога…
Ветэранам патрэбна
Яго дапамога.

Каб у хаце прыбраць
І вадзіцы прынесці,
Агарод ускапаць,
Дроў да печкі паднесці.

Піянер паважае
Гісторыю края,
У парадку магілы
Салдат падтрымае.

Каля помнікаў
Кветкі заўсёды цвітуць…
Піянеры на змену
Героям растуць!»

*Аляксей САМАЛЁТАЎ,*
*13 гадоў, Мажэйкаўская СШ, Лідскі раён*

*Мастачка Алеся ГАЛОТА*

Мастачка Алеся ГАЛОТА

# «Паўлінка» на ўсе часы

У кожнага пакалення свая «Паўлінка». Я гэта зразумела, калі гадоў у дваццаць паглядзела ў Купалаўскім тэатры спектакль, дзе галоўную ролю выконвала цяпер ужо Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Зоя Белахвосцік. Да таго я, вядома ж, чытала п'есу Янкі Купалы і некалькі разоў глядзела спектакль, дзе ролю Паўлінкі выконвала Ала Доўгая. Спектакль мне спадабаўся. Але ён быў камедыяй, як пазначана ў Янкі Купалы, можа быць, месцамі меладрамай…

А вось у спектаклі, дзе гралі Зоя Белахвосцік і Аляксандр Лабуш (ён выконваў ролю Якіма Сарокі), мае равеснікі і равеснікі сваіх герояў, мяне ўзрушыў нейкі глыбінна драматычны, нават трагічны падтэкст, які я, перачытаўшы, убачыла і ў п'есе — п'есе пра каханне…

Так ужо склалася, што дзяўчаты глыбей за хлопцаў перажываюць, і гатовыя дзеля таго, каб зберагчы каханне, на самыя рашучыя крокі. Хочаце зразумець, адчуць Купалаўскіх герояў? Схадзіце ў тэатр, паглядзіце «Паўлінку» вашага пакалення, а лепш за ўсё — самі пастаўце гэты спектакль. Толькі не настройвайцеся на легкадумную камедыю.

Учытайцеся, пачынаецца п'еса з сумных-самотных песень…

На Беларусі песні пра каханне часцей самотныя, і ў канцы (не ў спектаклі Купалаўскага тэатра, а ў п'есе) Паўлінка кажа: «Якімку арыштавалі! Маю зорачку ясную арыштавалі. (Дзіка). Ха-ха-ха! Звяры сляпыя!!!» (Як сноп, валіцца на зямлю. Суматоха. Крыкі: «Вады! Вады…»)

І апошнюю сваю фразу: «Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе і скончылося» Сцяпан Крыніцкі, бацька Паўлінкі кажа панура.

Але ж вернемся да гісторыі. «Паўлінку» Янка Купла напісаў у 1912-м. У тым жа годзе затануў «Тытанік», а археолагі адкапалі майстэрню старажытнаегіпецкага скульптара Тутмаса, і на свет з'явіўся бюст Ніферціці. А ў нас — «Паўлінка». Драматычны твор, камедыя ў 2-х актах, паводле вызначэння аўтара «сцэны са шляхецкага жыцця». «Паўлінку» Янка Купала скончыў пісаць 3 чэрвеня 1912 года ў Акопах. Спачатку ён хацеў напісаць празаічны твор пра нешчаслівае каханне Паўлінкі і Міколы, нават назва ў яго была — «А вербы шумелі»… Але потым напісаў п'есу. У п'есе галоўнае — дзеянне. І што ж, нават гісторыя пра нешчаслівае каханне можа перавярнуцца камедыяй?

Сястра Янкі Купалы Ганна Луцэвіч сцвярджала, што недарэчны Адольф Быкоўскі быў напісаны з ганарыстага шляхцюка з фальварка Калдукоўка, што на Лагойшчыне, Павэлака Ваяводскага. Быў свой прататып і ў Сцяпана Крыніцкага — багаты «шаноўны гаспадар» Гілярый Аблачымскі. У яго была дачка Ядзя, прыгожая, з цудоўным голасам. І сам Янка Купала быў у яе закаханы. У Гілярыя быў брат — скнара і п'яніца Пранцішак Аблачымскі (правобраз Пранцыся Пустарэвіча). Быў прататып і ў Якіма Сарокі. Гэта дваюродны брат Ядзі, настаўнік Мечыслаў Багдановіч, які нешчасліва да яе сватаўся…

Магчыма, вось гэтае зерне, гэты прысмак самоты, які ёсць у «Паўлінцы», тое, што так дакладна, геніяльна адчула і данесла са сцэны напачатку 1980-х Зоя Белахвосцік, і робіць гэты твор такім родным, нашым…

Маладыя — Паўлінка і Якімка (ёй — 19, яму — 25, ён ужо настаўнік) няўмела і нясмела спрабуюць зберагчы самае дарагое, што ёсць у чалавека — каханне. Колькі далікатнай вобразнасці ў іх словах! Паўлінка: «Неяк сэрцайка трасецца, як бы хто яго знячэўку перапужаў». Якім (ён, як мужчына, не можа змірыцца з тым, што бацькі Паўлінкі не хочуць прымаць яго як жаніха): «Мне і так горка на душы, як бы хто там палын засеяў, а ты яшчэ прытычкамі сваімі соліш».

Паўлінка і сапраўды на язык вострая, дзёрзкая… Але ж колькі болю і горычы за яе кпінамі…

Маладыя паразумецца не могуць. А бацькі Паўлінкі Сцяпан Крыніцкі з Альжбетаю і іхнія сваякі — Пранцысь Пустарэвіч з Агатаю, вярнуўшыся з кірмашу, мыжчыны, як прынята, на падпітку, паказваюць звыклыя ўзоры сямейнага жыцця. І ўсё гэта з прыказкамі, прымаўкамі, сакавітым народным гумарам! Гэтыя напраўду народныя характарныя ролі выконвалі і выконваюць найлепшыя, Народныя артысты. І яшчэ адна незвычайная, характарная роля — Адольфа Быкоўскага, самавітага шляхцюка, які імкнецца зрабіць ураджанне багатага чалавека і сватаецца да Паўлінкі. У Купалы ён нават на год маладзейшы за Якіма Сароку, яму ўсяго 24 гады. Але ж чалавек, які хоча выглядаць разумнейшым, чым ён ёсць, нічога, апроч шкадавання і смеху, не выклікае.

Колькі віслоўяў, прымавак пайшлі гуляць у народ з «Паўлінкі»! «Тудэма-сюдэма!», «Каханенькія-родненькія», «Дзве дзюркі ў носе і скончылося». Ці на словы

пана Адольфа: «Ды і мне ўжо трэба збірацца дамоў» Паўлінка пытаецца: «Ці ж пан Адольф рассыпаўся, што маніцёся збірацца?» У п'есе сапраўды ёсць з чаго пасмяяцца. Мы, беларусы, як і ўсе народы, на долю якіх выпала шмат выпрабаванняў, па натуры аптымісты. Мы не любім жаліцца. Мы думаем, як жыць, і дзейнічаем. Паўлінка ж таксама сабралася збегчы з дому да свайго каханага Якімкі.

«Паўлінка» – п'еса, якую хочацца іграць. Упершыню яе паставілі 27 студзеня 1913 года ў Вільні на вечарынцы Беларускага музычна-драматычнага гуртка. Ролю Паўлінкі выконвала С. Маркевіч (Маркевічанка). Янка Купала падарыў ёй букет кветак. А 3 лютага 1913 года п'есу ў Пецярбургу паставіў Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў. Тут ролю Паўлінкі выконвала легендарная Паўліна Мядзёлка.

Тагачаснай прэм'еры прысвяціў адну з лепшых сваіх карцін народны мастак Беларусі Уладзімір Тоўсцік. У яго актрыса, якая ўсё яшчэ ў вобразе Паўлінкі, светлая, далікатная, натхнёная, закаханая і… рашучая.

«Паўлінку» ставілі многія тэатры, не толькі беларускія, але і ў Латвіі, Літве, на Украіне, у Расіі. Але тая пастаноўка, якой традыцыйна адкрывае сезон Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы, — асаблівая. Яе прэм'ера адбылася 23 мая 1944 года ў Томску, дзе на той час у эвакуацыі знаходзіўся тэатр. Гэта быў цяжкі час. Можа, таму ў спектаклі быў зроблены акцэнт на ўрачыстае афармленне, камедыйныя вобразы. Нават канцоўку змянілі. «Паўлінка, ды з Якімкам!» — гэтыя словы, што радасна гучаць са сцэны, дазваляюць гледачам уздыхнуць з палёгкай…

Але сёння іншы час. І новае пакаленне мае магчымасць паставіць сваю «Паўлінку». І падумаць над тым, якое яно, беларускае каханне… Як яго зберагчы, як стаць шчаслівым ці шчаслівай.

Схадзіце ў Куплаўскі тэатр на «Паўлінку» і дазнайцеся, хто выконвае ролю Паўлінкі вашага пакалення. А потым — перачытайце п'есу і самі сабе адкажыце: ці ж камедыя Купалаўская «Паўлінка»?

***Галіна БАГДАНАВА***

## Перапынак




*Працяг на старонцы 47*

# Ці ёсць у цябе план?

*Тым, хто любіць задачкі з «зорачкамі»*

***Любая справа, калі хочаш, каб яна ўдалася, абавязкова павінна абапірацца на план. Як скласці план паспяховага выступлення?***

Пры падрыхтоўцы выступлення неабходна адказаць на пытанне: ***што*** сказаць? План дазваляе лагічна і паслядоўна выкласці думкі, пазбегнуць паўтораў, выпадковых адхіленняў ад тэмы, пропускаў. У плане ўтрымліваюцца асноўныя пункты выказвання.

Пасля выбару тэмы рэкамендуецца скласці *папярэдні план* (схему) выказвання. Ён узнікае ў свядомасці аратара яшчэ да спецыяльнага пошуку інфармацыі. Пасля таго як сабраны фактычны матэрыял, вывучана літаратура, складаецца *працоўны план*. Па сутнасці, гэта фіксацыя руху думак, іх фарміравання. Працоўны план можа быць больш і менш разгорнутым, простым і складаным (мець пункты і падпункты), назыўным і пытальным. Значнае месца ў падрыхтоўцы выказвання адводзіцца *тэзіснаму плану*, які змяшчае асноўныя думкі разважання (тэзісы).

Напрыклад, *план вуснага выказвання* на тэму «Францыск Скарына — выдатны прадстаўнік беларускай культуры эпохі Адраджэння» можа выглядаць так:

**1.** кароткая характарыстыка эпохі Адраджэння;
**2.** біяграфія Францыска Скарыны;
**3.** выдавецка-асветніцкая дзейнасць Францыска Скарыны;
**4.** асаблівасці выданняў Францыска Скарыны:
   а) пераклад кніг Бібліі на зразумелую большасці насельніцтва старабеларускую мову;
   б) тэхнічная дасканаласць, мастацкасць апрацоўкі выданняў;
   в) ілюстрацыі як сродак раскрыцця ў мастацкіх вобразах зместу кнігі;
   г) прадмовы і пасляслоўі;
**5.** значэнне дзейнасці Францыска Скарыны (дзейнасць яго паслядоўнікаў Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага).

*На II этапе падрыхтоўкі прамовы* ажыццяўляецца падбор матэрыялу.

Інфармацыю можна запазычыць:

- з уласнага вопыту;
- з вопыту іншых людзей;
- з кніг, прэсы, радыё, тэлеперадач;
- з інтэрнэт-рэсурсаў.

Ці маеш, дружа, тэму для выступлення? Калі не, але вельмі хочацца выступіць і атрымаць адзнаку, то вось табе крытэрыі, якімі трэба кіравацца ў выбары тэмы, каб выступленне прайшло паспяхова:

- адпаведнасць **тваім** інтарэсам і ведам;
- адпаведнасць інтарэсам **аўдыторыі**;
- актуальнасць, надзённасць і навізна;
- дыскусійнасць, праблемнасць.

***Паводле метадычных рэкамендацый Вольгі ПРАСКАЛОВІЧ***

# Разаблачэнні







Мастачка Алеся ГАЛОТА

Мінулым разам, дружа, абяцаў табе расказаць пра прывідную знакамітасць Беларусі — Чорную Панну. Расказваю.

У асветленую месяцам поўнач блукае па залах роднага Нясвіжскага замка прыгожая светлавалосая жанчына ў багатым чорным уборы. Гэта прывід Барбары Радзівіл, жонкі польскага караля Жыгімонта Аўгуста. На жаль, каралева-маці Бона Сфорца не прыняла нявестку са знакамітага роду Радзівілаў, і ў хуткім часе па яе загадзе Барбара, як сведчыць гісторыя, была атручана і памерла ў страшэнных пакутах.

Барбару бачылі многія людзі на спірытычным сеансе, зладжаным для няўцешнага караля вядомым магам таго часу панам Твардоўскім. Ён выклікаў дух памерлай каралевы пры дапамозе чароўнага люстэрка, папярэдзіўшы караля, каб той не думаў нават дакранацца да жонкі. Безумоўна, кароль не вытрываў, паспрабаваў абняць каханую, і тая з гучным выбухам знікла. Сакрэт яе з'яўлення хаваўся ў люстэрку, якое пан Твардоўскі, спяшаючыся, пакінуў у замку. За тонкім слоем амальгамы — сплаву ртуці і волава, які якраз тады пачаў выкарыстоўвацца ў вытворчасці люстэркаў — было выгравіравана аблічча Барбары. І калі святло трапляла на люстэрка пад патрэбным вуглом, у пакоі з'яўляўся «прывід».

Значыцца, Чорная Панна несапраўдная. Ведаеш, калі б Барбара Радзівіл і на самай справе стала прывідам, яна ніяк не магла б з'яўляцца ў Нясвіжскім замку, бо і памерла не там, і не быў ён пры яе жыцці такім, які сёння. Але ж Чорная Панна існуе! Па Нясвіжскім замку прывід блукае! Хто яна? О, гэта праклятце роду Радзівілаў, першая бізнес-лэдзі нашай зямлі, жанчына з няшчасным лёсам па імені Ганна Катажына, з Сангушкаў, з Ракава. Яшчэ пры жыцці яна, казалі,ператваралася ў чорную птушку і лётала над замкам, аплакваючы сваіх памерлых немаўлят.

Не ўсе загадкі свету, дружа, разгадваюцца проста. Ёсць яшчэ шмат нявытлумачанага! Магчыма, і з табой здараліся неверагодныя гісторыі. Дык напішы мне пра іх. Я так люблю ўсё таямнічае і загадкавае!

***Твой прывідны сябар Аркаша***

# Змаганні за лета. З сабой



*Вераніка Вельб, выпускніца СШ № 8, Ліда*

Летась я скончыла дзясяты клас і атрымала апошняе поўнае лета. Але нічога цудоўнага я не адчувала. Кожнае лета марыш пра Нёман, а ідзеш купацца ў Лідзейку. Малюеш вясёлыя сустрэчы з сябрамі, але сядзіш у сацсетках. Абяцаеш прачытаць дзясятак кніг, а глядзіш фільмы. І пачуццё, што гэта лета будзе такім самым, ужо не падкрадваецца ззаду, а глядзіць у вочы.

З самага пачатку лета я надакучвала маці тым, што не жадала ехаць у санаторый. «Я хачу быць дома! Тут мае сябры!». Толькі цяпер зразумела: у той момант спрачалася не я, а тое, што сядзела ўва мне, — боязь пакінуць утульнае крэсла каля камп'ютара і вядро з марозівам. Але мяне пасадзілі ў аўтамабіль і адвезлі ў санаторый. У дадатак да ўсяго я прыехала апошняй і мяне пасялілі да малых дзяцей. Але толькі на адзін дзень, потым пераехала да «дарослых». Аднак жа нічога не змянілася: мы толькі і рабілі, што елі, спалі, елі, спалі... Цудам там былі людзі. Я ніколі ні з кім пасля праведзеных разам канікул не сустракалася, а тут пазнаёмілася з дзяўчынкай, зусім да мяне не падобнай: яна прыцягвае, з ёй можна ў метро танцаваць.

Пасля санаторыя я пайшла ў Будслаў. Пайшла на самай справе. Гэта маленькая вёска з вялізным касцёлам у цэнтры. Ісці туды цэлы тыдзень было няцяжка, але не хапала мяккага ложка і магчымасці кожны дзень мыцца. Але захапляла людская дабрыня: даць паесці, развесяліць і спаць пакласці, і палюбіць так, каб назаўтра плакаць, выпраўляючы далей.

Потым быў час, калі старое жыццё зноў стала нормаю. Паляжанкі да адзінаццаці, паход у магазін і крэсла каля камп'ютара. І так некалькі тыдняў. Пасля гэта так абрыдла, што ў школу захацелася.

Потым былі Маладзечна, Смаргонь, зноў дом. Быў яшчэ адзін вялізны кавалак лета, дзе ўсё як і заўсёды: ежа і кіно. Кіно таксама добра, але я яго буду глядзець, калі нагу зламаю ці старой зраблюся. Едучы з Маладзечна, я падслухвала хлопцаў, якія ўжо тыдзень ездзяць па Беларусі. Так захацелася кінуць сястру і паехаць з імі. Але мне было страшна. Потым быў тыдзень з сястрой. Гэта было цудоўна, таму што яна паказала прыгожыя зоркі з майго даху. Пасля тыдзень альбо два дэпрэсіі. Слова знайшлі няўдалае, трэба гаварыць — ідыятызму. А пасля, седзячы ў агародзе, я вырашыла пагадзіцца паехаць у Оршу. Навошта туды паехала, не ведаю. Але з ідыятызмам трэба было заканчваць.

Мая краіна для мяне — гэта мой родны горад, а ўсё, што далей, — не. Таму, калі я прыехала, адчувала сябе нібы за мяжой. Цудоўны Днепр праз увесь горад, а не Лідзейка, старыя будынкі і новыя людзі. Сустрэча называлася «Аазіс». Гэта быў на самай справе востраў. Мо ён нічым не абмываецца, але толькі геаграфічна. Што мы там рабілі? Малітвы, гутаркі, гульні — усё, звязанае з Богам. Вы калі небудзь бачылі, як б'ецца ваша сэрца? Каб не адчуваць, а менавіта бачыць?..

# Старая хата



*Ганна Варонка,
10 клас, гімназія № 1,
Свіслач
(Гродзенская вобласць)*

*Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына…*
***Янка Купала***

Я іду звыклай дарогай. Ад вёскі яна падымаецца на пагорак, праходзіць праз лясок, а потым зварочвае да бору. Там, сярод ялін і соснаў, акружаная старым зарослым садам, стаіць хата.

Я прыходжу сюды, калі на душы сумна і трэба адпачыць ад праблем. П’ю гарбату, разглядаю старыя фотаздымкі, чытаю пажоўклыя ад часу лісты.

Ціхім спакоем дыхае старая хата. Пад гэтым дахам вырасла не адно пакаленне маіх продкаў. Тут нарадзіўся яшчэ мой прадзед.

Гэтае месца — помнік мінуламу. Кожная рэч — карціна на сцяне, кніга на падаконніку, попельніца з цыгарэтамі, ваза з завялымі кветкамі — толькі ўспаміны, сведкі жыцця людзей, якіх я ніколі не бачыла, бо нарадзілася ў іншы час. Але я люблю гэтых людзей толькі за тое, што яны былі.

Я адмыкаю дзверы старым ключом, але яны не адразу паддаюцца. Хата сустракае мяне халадком. Ногі нясуць адразу ў кухню. Калісьці, я памятаю, мы з бабуляй майстравалі тут розныя дзіўныя рэчы — з пакетаў, пробак і лапікаў. На маленькім століку каля акна стаіць наш выраб — хатнічак Кузя, ветліва ўсміхаецца сваімі вачыма з вялікіх чорных гузікаў. Ужо і бабулі няма, а Кузя яшчэ тут, як маленькі салдацік, ахоўвае і даглядае дом. На століку стаіць няспраўны гадзіннік. Але варта толькі заплюшчыць вочы — і стрэлкі на гадзінніку пачынаюць бегчы назад. У нос адразу б’е апетытны пах. Гэта пячэцца хлеб. Каля печы мітусіцца прабабуля, апранутая ў старамодную шэрую сукенку. Русыя валасы акуратна сабраны ззаду, толькі адна пасмачка выбілася з прычоскі і прыліпла да мокрага лба. Блакітныя вочы ўсміхаюцца, але ў іх ёсць і нешта сумнае. Можа, цяжкае жыццё пакінула адбітак?

Нарадзілася яна ў дваранскай сям’і. І маці, і бацька пакінулі след у гісторыі — былі ў свой час знакамітымі. Хоць жылі не вельмі багата, але мелі свае маёнткі. У час рэвалюцыі сям’я вымушана была бегчы ў Вільню. Там прабабуля пазнаёмілася са студэнтам Віленскага ўніверсітэта, выйшла замуж і перабралася на радзіму да мужа. Гэта і выратавала ёй жыццё. Бо ў 1939 годзе яе бацьку расстралялі без суда і следства, маці вывезлі невядома куды, малодшага брата прызвалі ў польскую армію і ён загінуў. Са старэйшым братам сувязь абарвалася, з ім яна сустрэнецца ажно ў канцы жыцця.

Калі прабабуля даставала з печы хлеб, позірк яе спыняўся на полымі. На імгненне, толькі на імгненне вочы, якія толькі што радасна ўсміхаліся, напаў-



няліся неверагодным болем і жалем. Можа, яна ўспаміналa тых, каго не вернеш, а можа, мне так толькі здавалася. Праз хвіліну духмяны бохан свежага хлеба ляжаў на стале, прыкрыты рушніком з вышытымі чырвонымі пеўнікамі.

На двары шарэе, за акном пяюць цвыркуны. Раптам у сенях бразнула клямка. Дзеці (іх у прабабулі і прадзядулі было сямёра), пакідалі кожны сваю справу, хуценька пабеглі сустракаць тату. Стомлены, але вясёлы прадзед вярнуўся з працы. Цяпер на полі ідзе ўборка, і аграном бывае дома вельмі рэдка. Цяжка ўявіць чалавека больш адданага сваёй справе. У маладосці, не маючы грошай на адукацыю, ён, пакінуўшы родныя мясціны, адзін выправіўся ў Вільню, каб стаць вольным слухачом ва ўніверсітэце. Гэта значыць, што на дыплом ён спадзявацца не мог. Але ўсё ж будучы цесць аплаціў яму вучобу і прадзед вывучыўся на землеўпарадчыка. Ён быў адданы сваёй працы і зямлі ўсёй сваёй шырокай душой. Яго імя і сёння ўспамінаюць як прыклад разумнага, адукаванага чалавека, таленавітага агранома, які да апошняй хвіліны свайго жыцця імкнуўся на працу.

Стоячы на парозе, прадзед весела ўсміхаецца гучнаму натоўпу, які бяжыць яму насустрач. Ад доўгага знаходжання на сонцы твар яго загарэў, а валасы сталі больш светлымі. Калі ён усміхаецца, каля вачэй збіраюцца маленькія зморшчынкі, якія звычайна бываюць у вельмі добрых людзей. Высокі, стройны, у модных штанах галіфэ. Прадзед заўсёды любіў апранацца добра, як цяпер гавораць — стыльна. Сваімі вялікімі далонямі, якія прапахлі дымам цыгарэт і пылам поля, ён абдымае дзяцей. І ўсе разам ідуць на кухню, дзе чакае накрыты стол, — час вячэраць.

Я расплюшчваю вочы. Першае, што бачу, — паедзены моллю рушнік з вышытымі чырвонымі пеўнікамі. Дзіўна, але мне здалося, што і пеўнікі на ім таксама пастарэлі.

Выходжу з кухні, як у сне. Цішыню парушаюць толькі мае крокі па прыступках старой лесвіцы — я падымаюся на другі паверх. Мэблі тут амаль што няма, толь-

кі вялікая кніжная шафа прыцягвае ўвагу. Карэньчыкі ў некаторых кніг абарваліся, а папера пажоўкла ад часу. Тут жа каля шафы стаіць скрыня, поўная старых лістоў. Чытаючы іх, адчуваеш, што адбывалася ў мінулым, у душы таго, хто пісаў. Асабліва пранікнёныя лісты прадзеда і прабабулі адно да аднаго. Кожнае пісьмо да сваёй каханай жонкі ён пачынаў словамі: «Мой любы верабейчык». Вялікае шчасце — сустрэць такое чыстае, светлае, адзінае ў жыцці каханне, якое аб'ядноўвала іх, якое было светлым праменьчыкам нават у самыя цёмныя дні.

Я выходжу з хаты і саджуся на прыступкі. У твар дзьме ветрык. Пахне бэзам. Навокал усё зарасло. І ніхто не сказаў бы, што тут калісьці быў незвычайнай прыгажосці сад і парк. Даўным-даўно мой прапрапрадзед быў графскім садоўнікам у маёнтку «Альберцін». І не проста садоўнікам — сапраўдным майстрам працы. За добрую службу граф даў яму вольную — і ён перабраўся да сына, які атрымаў кавалак зямлі ў пасаг ад жонкі. Месца было балоцістым і здзічэлым. Але прапрапрадзед не баяўся цяжкасцей. Трэба сказаць, што ён сумаваў па графскім парку, і таму зрабіў усё магчымае, каб разбіць на гэтай зямлі графскі парк у мініяцюры...

Я замыкаю дзверы старым ключом. Павольна сыходжу па прыступках. Я вярнуся сюды, у старую хату, яшчэ неаднойчы. І праз год, і праз дзесяць гадоў яна сустрэне мяне такой самай цішынёй. Можа, вы мне не паверыце, яле я не прамяняю гэты дом успамінаў ні на якія грошы.



# Нараджэнне Маці Божай

## Чытаем ікону



***Абраз «Нараджэнне Маці Божай». 1649. Дрэва, тэмпера. Нацыянальны мастацкі музей.***

У кожнага падлетка верасень выклікае асацыяцыю з пачаткам навучальнага года. Але мала хто ведае, што яна караніцца ў далёкім IV стагоддзі новай эры, калі візантыйскі імператар Канстанцін Вялікі прыняў рашэнне пачынаць новы год 1 верасня. Паколькі ў старажытнасці школы дзейнічалі пры манастырах і храмах, то і пачатак навучання прымяркоўвалі да гэтага дня. Дарэчы, і сёння для праваслаўных вернікаў верасень — першы месяц новага года, але не навучальнага, як у школе, а царкоўнага — навалецце. І першае вялікае свята ў новым царкоўным годзе — **Свята Нараджэння Маці Божай**, якое адзначаецца 21 верасня. У гэты дзень узгадваюцца падзеі, што адбыліся больш за дзве тысячы год таму ў Палесціне, калі на Божы свет нарадзілася Марыя — будучая маці

Ісуса Хрыста. Царкоўнае паданне сведчыць, што бацьку Марыі звалі Іаакімам, а маці — Ганнай. Яны былі вельмі набожнымі, але не мелі радасці ў сямейным жыцці, бо да самай старасці не было ў іх дзетак. Адсутнасць у сямейнай пары дзяцей па тагачасных уяўленнях тлумачылася тым, што Бог такім чынам наслаў праклён за нейкія грахі. Зразумела, што і грамадства да такой сям'і ставілася ганебна. Аднойчы, калі Іаакім прыйшоў у храм, першасвятар не дазволіў яму нават прынесці ахвяру Богу, сказаўшы: «Ты не даў нашчадкаў нашаму народу, таму табе не месца ў Божым доме». Засмучаны Іаакім пайшоў у пустыню, каб маліцца Богу аб дараванні дзяцей. Ганна засталася дома, але таксама дасылала Богу свае малітвы. У гэты час ім абодвум з'явіўся анёл і сказаў, што Бог чуе іх малітвы і народзіцца ў іх дзіця, пра якое людзі будуць казаць ва ўсім свеце. Так і здарылася. Праведныя бацькі далі зарок аддаць сваё дзіця на служэнне Богу і аддалі дачку Марыю на выхаванне ў Іерусалімскі храм…

Са старажытных часоў для кожнага царкоўнага свята іканапісцамі ствараўся адпаведны абраз, які праз жывапіс адлюстроўваў падзеі. Безумоўна, існавалі абразы, прысвечаныя і нараджэнню Маці Божай. Адзін з такіх быў створаны ў 1649 годзе недалёка ад Магілёва ў мястэчку Галынец. На гэтым абразе мы бачым пакой, у якім толькі што нарадзілася дзіця. Зразумела, што гэта дом Іаакіма і Ганны. Святая Ганна ляжыць на высокім ложку пад зялёным балдахінам. Вакол яе стаяць сваячкі ці, можа, нават суседкі, якія ў руках трымаюць падарункі. Гэта ўказвае на тое, што заўсёды нараджэнне дзіцяці ўспрымалася як вялікае свята не толькі для бацькоў, але і для грамадства. Насупраць ложка з кійком у руцэ сядзіць святы Іаакім. Зразумела, што гэты кіёк падкрэслівае немалады ўзрост бацькоў Дзевы Марыі. А дзе ж яна сама? Прыгледзьцеся, унізе абраза сядзяць дзве жанчыны — гэта павітухі. На іх руках белы рушнік, на якім і ляжыць немаўлятка. Павітухі звычайна купалі дзіця ў першы дзень пасля нараджэння. Дарэчы, гэта яны і зараз пачынаюць рабіць, бо каля іх ног стаіць невялікі цэбар з вадою. Нягледзячы на тое, што святыя Іаакім і Ганна жылі ў далёкай Палесціне, наш іканапісец стварае ўяўленне, што нараджэнне Багародзіцы адбылося не дзе-небудзь, а менавіта на Беларусі. Заўважце, усе падушкі ўпрыгожаны прошвамі з беларускім арнаментам, галаўныя ўборы павітух нагадваюць палескія наміткі. Кветкі на стале каля Іаакіма больш падобныя на валошкі, чым на лілеі, якія звычайна сімвалізуюць духоўную чысціню нованароджанай Марыі. І за акном мы бачым не іерусалімскія дамы, а будынкі, якія мог бачыць мастак-іканапісец у горадзе Магілёве ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Але якое месца галоўнае ў абразе? Безумоўна, гэта высокі ложак, на якім ляжыць святая Ганна. Іканапісец канцэнтруе позірк гледача на чырвонай коўдры, якой пакрыта Ганна. Таму што ведае: наш зрок так уладкаваны, што мы ў першую чаргу звяртаем увагу менавіта на чырвоны колер. Узгадайце, нават памылкі ў сшытках абавязкова падкрэслены чырвоным — каб іх не абмінулі. Абмінуць Ганну нельга! Трэба памятаць, што калі тваё жыццё будзе такім жа добрым, а твая вера ў Бога будзе такой жа цвёрдай, тады любыя праблемы ў тваім жыцці вырашацца пры дапамозе Божага заступніцтва. Як гэта і адбылося ў сям'і святых Іаакіма і Ганны — бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі.

***Дзмітрый Салодкі,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея***

## Малітваслоў

### МАЛІТВА НА ДОБРУЮ ВУЧОБУ

*Госпадзі Найдабрэйшы, пашлі нам ласку Духа Твайго Святога, які даруе сэнс і ўмацоўвае душэўныя нашы сілы, каб, слухаючы вучэнне, што нам падносіцца, узраслі мы Табе, нашаму Стваральніку, на славу, бацькам жа нашым на ўцеху, Царкве і Айчыне на карысць.*

*Вывучыць на памяць*

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ МАЛІТВЫ

Ёсць тры асноўныя віды малітвы: славаслоўе, падзяка і прашэнне.

Славаслоўе — самы дасканалы і бескарыслівы від малітвы. На небе святыя анёлы няспынна хвалебнаю песняю праслаўляюць Госпада. Успрымаючы Бога як Найвышэйшую і Найдасканалейшую Істоту, і мы ўзносім хвалу яму з радасцю і замілаваннем.

Падзяку мы ўзносім Богу за яго любоў і апеку, за спрыянне і дапамогу нам.

Прашэнне — самы распаўсюджаны від малітвы. Усведамляючы сваю слабасць і грахоўнасць, мы ў першую чаргу просім Госпада прабачыць нам нашы грахі і дапамагчы пераадолець нашы недахопы. Звяртаючыся да Бога, хрысціянін павінен маліцца не толькі за сябе, але і за сваіх родных, сяброў, знаёмых, за свой народ і за ўвесь свет.

***З прадмовы «Пра малітву» протаіерэя Сергія Гардуна да кнігі «Праваслаўны малітваслоў»***

## Чытаем Евангелле




Прачытаўшы адпаведныя главы з Евангелля, знайдзіце патрэбныя адказы і ўпішыце лічбы ў выраз, каб атрымалася роўнасць.

1. Там … дзён Ён быў пад спакусай у пустыні (Лк. 4 глава).
2. Тут ёсць у аднаго хлопчыка … хлябоў ячменных (Ін. 6 глава).
3. І прыйшлі да Яго з расслабленым, якога неслі … (Мк. 2 глава).
4. Было ў нас … братоў (Мф. 22 глава).
5. Было ж тут … каменных ваданосаў (Ін. 2 глава).
6. І сеўшы, прызваў … і сказаў ім (Мк. 9 глава).
7. У … человека было два сына (Мф. 21 глава).

# Ад пясочніцы да раскопак




Рэдакцыі часопіса «Бярозка» пашчасціла трапіць на сапраўдныя гістарычныя раскопкі — у вёсцы Лаўрышава, на месцы старога манастыра з багатай шматвяковай гісторыяй. «Раскопкі і раскопкі, колькі іх яшчэ праводзяць у розных месцах», — падумае нехта. Але не, гэтыя даследаванні сапраўды незвычайныя, бо адчуць сябе самымі сапраўднымі навукоўцамі тут могуць студэнты і нават школьнікі.

Пошукі маўклівых сведак гісторыі тут ідуць ужо пяты год, але сёлетнія адрозніваюцца ад мінулагодніх — прыехала больш людзей з розных мясцін Беларусі. Не губляюць цікаўнасці да гісторыі і студэнты, якія, як кажа кіраўнік раскопак прафесар Сяргей Яўгенавіч Рассадзін, пачыналі ёю займацца, калі былі меншымі за рыдлёўку. У гэтым годзе самыя малодшыя прыехалі пасля 6-га класа. Шмат хто з дзяцей удзельнічае ў раскопках упершыню, але і на іх навуковым рахунку ўжо ёсць цікавыя знаходкі — фрагменты керамікі, манеткі і іншыя рэчы. Навучыцца сакрэтам археалогіі можна падчас лекцыйнага курса за тры — чатыры дні, пасля якіх юныя даследчыкі амаль прафесійна знаходзяць, разбіраюць і апрацоўваюць здабыткі.

На ўваходзе ў пакой, дзе ідзе апрацоўка, — папярэджанне: «Просьба не заходзіць без неабходнасці». Адразу зразумела, што справа тут адбываецца сур'ёзная, турбаваць без патрэбы не варта. Таму заходзім толькі тады, калі праца скончылася і ў пакоі застаўся толькі Тэльман Віктаравіч Маслюкоў, намеснік кіраўніка экспедыцыі.

— Усе знойдзеныя рэчы прамываюць, прасушваюць, а потым наносяць на іх (звычайна гэта робяць дзяўчаты) спецыяльныя лічбы — зашыфраваныя звесткі пра дату і месца знаходкі. Цяпер яе дакладна не згубяць і не пераблытаюць, бо справаздачы са спісамі знаходак захоўваюцца вечна. Дарэчы, яны, знаходкі, бываюць масавыя і індывідуальныя. Адна з самых унікальных знаходак — фрагмент шахматнай фігуры, ладдзі. Рэч даволі рэдкая, на тэрыторыі нашай краіны іх было знойдзена ўсяго толькі 82. Як бачыце, усё ўлічана. Часцей іх знаходзяць у гарадах — цэнтрах княстваў. Тое, што гэтая фігура знойдзена ў Лаўрышаве, кажа пра высокі статус месца. Магчыма, яна належала самому князю Войшалку, які, хоць быў манахам, захаваў некаторыя княжацкія звычкі.

Вельмі дапамагае навукоўцам Лаўрышаўскі мужчынскі манастыр — дае памяшканне, харчаванне і ўвогуле ўсё, што неабходна. Прымае да сябе і летні лагер





выхаванцаў дзіцячай нядзельнай школы — асноўны «штат» юных дапаможцаў. На жаль, мы трапілі на самае развітанне дзяцей з манастыром і яго жыхарамі — вельмі шчырае і кранальнае, са слязьмі і песнямі, запрашэннямі і абяцаннямі абавязкова прыехаць яшчэ.

У аўтобусіку цесна ад шматлікіх рэчаў, але светла і ўтульна ад дабрыні развітальных усмешак і слоў. На агульнае пытанне, каму што ў лагеры спадабалася, нават адразу не знайшліся што адказаць — так шмат прыемных успамінаў, з якіх ну ніяк не вылучыш штосьці адно. Таму з месцаў выкрыквалі: «Усё!» Кажуць, што гэтае месца дае веру ў Бога і загартаванасць — тут праходзяць выпрабаванні дажджамі і навальніцамі: у намётавым лагеры непагода — сапраўдная перашкода, але гэтае месца дае сілы яе перажыць. «Ляжыш у намёце і проста над тваёй галавой — навальніца. І сярод ночы перасяляешся ў іншае месца».

Жыццё і ў гісторыкаў, і ў школьнікаў — паводле законаў манастыра. Пад'ём, малітва, сняданак, паслушэнствы — праца на раскопках, дапамога ў кухні ці на градах, збор лекавых раслін, выпяканне фірмовай стравы, агапікаў, якімі нас пачаставалі, але сакрэт прыгатавання так і не адкрылі. Увечары — традыцыйныя для любога дзіцячага лагера размовы і спевы ля вогнішча. Да іх далучаюцца і даследчыкі — Сяргей Яўгенавіч Рассадзін і Тэльман Віктаравіч Маслюкоў. Тэльман Віктаравіч падарыў дзецям сапраўдныя археалагічныя панамкі. Некаторым яны, відаць, сапраўды спатрэбяцца — хтосьці ўжо думае пра тое, каб займацца археалогіяй.

***Памідоры доўгі час лічыліся невядомымі і нават атрутнымі, вырошчвалі іх на клумбах разам з кветкамі. Вядома, што пладамі памідораў нават спрабаваў атруціць Джорджа Вашынгтона повар, якога падкупілі англічане.***

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

***Фота Тамары МІНЮТКА***

# У пошуках Чорнага Бусла





*Рубрыка клуба «Выток»*

Што так кліча-вабіць у лес?

Усім прывітанне! Мяне завуць Віка, я займаюся турызмам ужо больш за два гады. Аднойчы да нас у клас прыйшоў дзіўны барадаты «дзядзька» і паклікаў у лес... З той пары лес кліча і вабіць мяне.

Нядаўна я вярнулася з чарговага паходу з нашым выдатным кіраўніком «Школы экспедыцыі» Аляксеем Мустафавічам Мухлем. Але гэта быў не просты паход. Год быў вельмі засушлівым для жыхароў заказніка «Сярэдняя Прыпяць». Раней мы заўсёды бачылі тут велізарную паўнаводную раку, але сёлета на яе месцы — маленькі раўчук. Абмялеў і прыток Прыпяці — рака Гарынь, на беразе якой мы штораз спыняемся. Але мы, як заўсёды ў намётавым лагеры «Арнітолаг», заняліся вывучэннем буйных птушак і жывёл. Калі для нас, людзей, стала менш вады, то для жывых істот заказніка, у тым ліку і чорных буслоў, стала менш ежы і знікла магчымасць вывесці птушанят. Адпаведна, няма чаго асвойваць новыя гнёзды.

Кожную раніцу мы прачыналіся, снедалі і з'язджалі ў лес. Нашай задачай было выявіць паспяховасць гнездавання, і мы шукалі птушанят па былых гнёздах. Часам нам шанцавала — знаходзілі ў гнёздах птушанят і кальцавалі іх. А часам, прайшоўшы 20 — 25 км дарэмна, стомленыя і сумныя, вярталіся ў лагер і адпачывалі. Кожны вечар мы гулялі ў «мафію» ці проста сядзелі ля вогнішча, размаўлялі, пілі гарбату, весяліліся. Сёлета на час экспедыцыі прыпала два дні нараджэння: у Мікіты — 29 чэрвеня і ў мяне — 1 ліпеня. Нашы святы мы адзначылі вельмі весела: танцы, песні, падарункі, гульні... Мы сумясцілі нашы падзеі — перанеслі на вечар 1 ліпеня. У гэты дзень на небе, нібы для нас, адбылася вельмі рэдкая астранамічная з'ява, якая называецца «падарунак каралёў». На небасхіле гарэлі Юпітар і Венера. Яны ззялі, як дзве вельмі яркія зоркі. Адна зорка большая — Венера (яна нават драбнейшая за Зямлю), другая меншая — Юпітар (ён насамрэч у дваццаць разоў большы за нашу планету) — абедзьве можна было бачыць няўзброеным вокам. З добрым настроем мы леглі спаць, каб раніцай прачнуцца і бадзёрымі пачаць працаваць.

У лесе здаралася шмат незвычайных момантаў: то пугач выкапае аснову ў гняздзе бусла, то сустрэнем сляды мядзведзя. Памятаю, было вельмі страшна: у любую хвіліну ён мог выйсці з-за кустоў і «павітацца» з намі.

Некаторым з нас даводзілася заставацца на дзяжурстве ў лагеры. Дапамагаючы «па гаспадарцы», мылі кацялкі і талеркі, секлі дровы і гатавалі ежу для стомленых даследчыкаў. Бывала, гатавалі бліны з кісялём на вогнішчы. Усім вельмі спадабалася такая страва.

Не абышлося без здарэнняў. Цягам экспедыцый на Гарынь склалася традыцыя: пасля кожнага прыезду з лесу мы скачам у ваду і плаваем, бо гэты час проста невыносна спякотны. Дык вось, аднойчы пасля гарачыні сабралася нядрэнная навальніца, а перад дажджом наш другі кіраўнік вырашыў скокнуць у ваду... Усё завяршылася тым, што яго цапнула бяззубка (малюск). «Укус» давялося лячыць у шпіталі. Але гэта не так і дрэнна: з яго ніхто не браў прыклад і з тых часоў мы не скакалі ў ваду. На гэтым нашы траўмы скончыліся, калі не лічыць сінякоў ад гульні ў слана, укусаў насякомых і дробных парэзаў ад ракавінак малюскаў.

Час у лагеры, на жаль, ніхто не мог спыніць, і вось прыйшоў той самы момант, калі трэба ад'язджаць. Апошнюю ноч мы спалі пад адкрытым небам, а ў шэсць гадзін раніцы ўжо былі ў дарозе. Але на гэтым прыгоды, вядома ж, не скончыліся — нас чакаў сам пераезд у Столін на чыгуначны вакзал. І як яго здзейсніць на дзвюх невялікіх машынах? Дарэчы, нас было 14 чалавек, а праехаць мы меліся каля 40 км. На вакзале народ дзівіўся, убачыўшы, якая колькасць людзей вылазіць з дзвюх машын. Нас ужо чакала электрычка да Баранавічаў, а адтуль — дызель да Мінска.

*У цягніку рыхтуеш сябе да прыезду дамоў:*

- у горадзе ты ўбачыш машыны і святлафоры — табе гэта так нязвыкла і незнаёма;
- трэба нанова вывучыць правілы дарожнага руху;
- трэба змыць з сябе слой бруду і пайсці спаць на цёплай і мяккай пасцелі.

Так завяршаецца кожны наш паход, кожны год. Мне гэта ТРЭБА?!

***Вікторыя СУШКЕВІЧ,***
***клуб «Выток»,***
***Мінскі гарадскі турыстычна-экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі,***
***гімназія № 40, Мінск***

# Першае кальцаванне

А я хачу распавесці, як вучыўся кальцаваць птушанят чорнага бусла. Кожнае лета ў заказнік «Сярэдняя Прыпяць» набіраецца каманда людзей, якія хочуць далучыцца да прыроды. Я шмат чуў пра экспедыцыі ў гэты заказнік, але ні разу там не быў. І вось у адзін з летніх дзён мне патэлефанаваў наш кіраўнік Аляксей Мустафавіч Мухля і запрасіў паўдзельнічаць у чарговай даследчай экспедыцыі. Я не адмовіўся і ўжо на наступны дзень збіраў заплечнік і рыхтаваў фотаапарат. На сходзе ўдзельнікаў экспедыцыі нам распавялі пра тэхніку бяспекі і мэту экспедыцыі. Мы павінны былі разам з дасведчанымі арнітолагамі кальцаваць птушанят чырванакніжнай птушкі — чорнага бусла. Гэты занятак, як мне здалося, вельмі цікавы, і я хацеў як мага хутчэй прыступіць да яго.

Нарэшце надышоў дзень выезду з Мінска: раніцай сядаем у электрычку — вечарам ужо на месцы. У прыцемках расстаўляем палаткі на беразе рэчкі Гарынь і кладзёмся спаць.



Першая ноч у намёце была халоднай і нязвыклай пасля камфортнага горада.

Раніцай дружна снедаем і прыступаем да выканання задання. Нас дзеляць на тры групы: адна застаецца ў лагеры, а дзве адпраўляюцца да гнёздаў. Ура! Я, вядома ж, адпраўляюся на пошукі.

Наша група прайшла кіламетры, перш чым апынулася каля гнязда (і яшчэ не факт, што яно заселена буслянятамі). Але нам пашанцавала: у першым гняздзе аказаліся тры маленькія пухнацікі. З дапамогай адмысловай падрыхтоўкі, як альпініст, арнітолаг узлазіць на дрэва і акуратна, у адмысловым мяшэчку спускае малых уніз, дзе іх узважваюць, вымяраюць і, нарэшце, кальцуюць. Мне вельмі хацелася самому замацаваць кальцо на назе птушаняці, але нам дазволілі толькі пагладзіць і сфатаграфавацца, бо дарослыя птушкі хвалююцца, наразаючы кругі дзесьці ў нябёсах, высока над гняздом. Вярнуўшы малых дадому, вешаем фотакамеру-пастку на падлёце да гнязда ў надзеі, што яна раскажа нам больш пра жыццё гэтых птушак.



Увечары, сабраўшыся ля вогнішча, абменьваемся ўражаннямі прамінулага дня, абмяркоўваем планы на заўтра і кладзёмся спаць.

Кожны наступны дзень праходзіць з новымі адкрыццямі, а вечар — з новымі забаўкамі.

***Вынікі паездкі:***

- паводле слоў арнітолагаў, год для гнездавання буслоў выдаўся няўдалым. Паўсюль панізіўся ўзровень вады, што пацягнула за сабой скарачэнне колькасці земнаводных, якімі сілкуюцца нашы буслы. З-за гэтага некаторыя буслы адмовіліся ад гнездавання, а некаторыя вывелі менш птушанят, чым звычайна;
- паводле слоў тых жа арнітолагаў, год для курсантаў «Школы экспедыцыі» вельмі ўдалы. Навучыліся паднімацца да гнязда чацвёра нашых сяброў. Паспрабавалі кальцаваць двое. Пасябравалі адзін з адным усе 12 удзельнікаў экспедыцыі. Столькі ж было акальцавана птушанят з нашым удзелам, што само па сабе сімвалічна.

***Мікіта ДАВІДОВІЧ,***
***клуб «Выток»,***
***Мінскі гарадскі турыстычна-экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі,***
***СШ № 130, Мінск***

# Blind Guardian

## метал-куміры ўпершыню ў Мінску, або 3 канцэрта я сышла сіпатая

Адна з самых яскравых падзей майго лета — прэзентацыя альбома Beyond the Red Mirror легенды метал-музыкі, гурта чароўных бардаў — Blind Guardian. Упершыню за трыццаць гадоў свайго існавання музыкі наведалі Мінск і ўзарвалі яго тым летнім вечарам!

Каб па-сапраўднаму пранікнуцца настроем песень Blind Guardian, публіцы трэба было трохі расслабіцца, таму залу «разаграваў» расійскі метал-гурт Amalgama, які выконвае музыку ў стылі вядомых Scorpions і Manowar. Пазітыўныя, класныя хлопцы!

А тое захапленне, якое ахапіла мяне, як толькі на сцэну выйшлі героі вечара, перадаць словамі складана... Забыліся і стомленасць, і нейкае заўсёднае, калі бачыш сваіх куміраў, хваляванне. І больш не было сарамлівасці — усе песні, якія ведала, хацелася падпяваць.

Былі і рэзкія, магутныя песні, якія хвалюючай атмасферай і хрыплым вакалам Хансі Кюрша — фронтмэна гурта — раздзіралі гарачае паветра; і містычныя, лірычныя балады, якія мякка пагрузілі слухача ў фэнтэзійныя светы Толкіена...

Хансі Кюрш стасаваўся з гледачамі, паціскаў ім рукі, глядзеў камусьці ў вочы і падміргваў, паказваючы сябе не толькі як выдатнага вакаліста, але і абаяльнага чалавека. Немагчыма было не закахацца ў яго. Я не магу забыцца і на іншых удзельнікаў гурта, якія, нягледзячы на стомленасць, увесь час прамяніста ўсміхаліся зале: гітарысты Андрэ Ольбрых і Маркус Зіпен, бубнач Фрэдэрык Эмке. Хачу адзначыць, што за ўсё сваё доўгае існаванне гурт усяго некалькі разоў мяняў склад. Вельмі дружныя хлопцы!

Песні гралі ў асноўным старыя, якіх і чакалі ад легендарнага гурта, што ўпершыню прыехаў у Беларусь. Blind Guardian парадаваў гледачоў такімі хітамі, як Bright Eyes, Valhalla, Mirror Mirror, The Bard's Song, якія на памяць падпявала ўся зала. Шчыра кажучы, з канцэрта я сышла сіпатая.

Адзінае, да чаго магу прычапіцца, дык гэта да гучання музыкі ў розных частках залы: бліжэй да сцэны гук быў вельмі дрэнны, вакаліста практычна не было чуваць. Але гэта мінус клубу, не самім Blind Guardian.

Яны, дарэчы, абяцалі вярнуцца! Буду цярпліва чакаць іх.




Подпіс рэдактара

***Марыя ДЗЕРБІЧАВА,
10 клас, СШ № 207, Мінск***



# Спам, патч, перфалента і іншыя дзіўныя словы

***Ці ёсць што-небудзь больш хуткае ў сваім развіцці, чым IT-тэхналогіі? Уявіць будучыню без іх — немагчыма: раздрукаваныя органы, камп'ютары з будовай мозга чалавека, іншыя з'явы, пра якія раней марылі пісьменнікі-фантасты… Але азірнёмся і ўспомнім, з чаго пачыналіся інфармацыйныя тэхналогіі. Даведаемся пра людзей, падзеі і легенды, без якіх сучасны стан IT быў бы немагчымым.***

## ДАЧКА ЯКОГА ЗНАКАМІТАГА ПІСЬМЕННІКА БЫЛА ПЕРШЫМ ПРАГРАМІСТАМ У ГІСТОРЫІ?

У 1823 годзе аднаму крыху эксцэнтрычнаму чалавеку, матэматыку Чарльзу Бэбіджу прыйшла ў галаву ідэя стварыць аналітычную вылічальную машыну для правядзення арыфметычных аперацый, якая стала прататыпам сучаснай ЭВМ. Дадзены «прыбор» быў сапраўды геніяльным для свайго часу, паколькі меў нават рэгістры (ячэйкі) памяці, у якіх маглі захоўвацца дадзеныя, прылады ўводу і вываду інфармацыі. А галоўнае — машына магла счытваць дадзеныя з перфакарт (спецыяльныя стужкі з адтулінамі ў пэўных месцах), то бок, была праграмуемай!

Ён пазнаёміўся з дачкой знакамітага пісьменніка Джорджа Гордана Байрана, якая таксама захаплялася матэматыкай, — лэдзі Аўгустай Адай Кінг Лаўлейс. Выкладаючы думкі па стварэнні машыны, Чарльз літаральна заразіў сваёй ідэяй Аду і знайшоў для сябе вельмі каштоўнага саюзніка, калегу і аднадумцу (на жаль, адзінага). Працуючы з Чарльзам, у 1842 годзе Ада, перакладаючы матэматычныя мемуары, апісала алгарытм (паслядоўнасць дзеянняў) вылічэнняў, стварыўшы, па сутнасці, першую ў свеце камп'ютарную праграму.



На жаль, для рэалізацыі сваіх ідэй Бэбіджу неставала субсідый, таму ні Ада, ні Чарльз вынікаў сваёй працы не ўбачылі. Машыну дапрацаваў сын Чарльза, Генры Бэбідж, і першая дзеючая мадэль з'явілася ў 1906 годзе.

Але і пра Аду не забыліся. У 1975 годзе Міністэрства Абароны ЗША вырашыла распрацаваць універсальную мову праграмавання. Міністр, прачытаўшы гістарычны экскурс, адобрыў сам праект і магчымую назву для яго — «Ада». Так у гісторыі было ўвекавечана імя цудоўнай лэдзі і першага праграміста ў гісторыі — Ады Лаўлейс.

## ЧАМУ АБНАЎЛЕННЕ КАМП'ЮТАРНАЙ ПРАГРАМЫ НАЗЫВАЮЦЬ «ПАТЧ»?

З англійскай мовы слова patch перакладаецца як «латка» альбо «пластыр». Чаму ж у гісторыі зафіксавана такая незвычайная назва? Справа ў тым, што да вынаходніцтва дыскаў і флэшак праграмы захоўваліся на перфалентах. Гэта папяровыя катушкі з адтулінамі — камбінацыямі нулёў і адзінак бінарнага (двaічнага)

кода, які «разумее» камп'ютар. На такіх перфалентах усе праграмы траплялі да карыстальнікаў, і калі ў нейкай частцы праграмы знаходзілі памылку, праграміст высылаў усім карыстальнікам поштай выпраўленую частку ленты. Памылковую частку выразалі і ўклейвалі патч, латку.

## У НАЗВЕ ЯКОЙ ВЯДОМАЙ ІТ-КАМПАНІІ ЗРАБІЛІ АРФАГРАФІЧНУЮ ПАМЫЛКУ?

Больш за 88 працэнтаў усіх пошукавых запытаў у інтэрнэце апрацоўваецца пры дапамозе пошукавіка google.com. Гісторыя гэтай сістэмы пачалася ў 1996 годзе, калі два студэнты Стэнфардскага ўніверсітэта Лары Пэйдж і Сяргей Брын у якасці свайго вучэбнага праекта вырашылі стварыць электронную бібліятэку. Паступова распрацоўка ператварылася ў пошукавую сістэму, якую назвалі BackRub.

У 1997 годзе падбіралася больш мілагучная назва, якая магла б адлюстраваць велізарную колькасць апрацаванай інфармацыі. Іх калега, Сін Андэрсан, прапанаваў слова «гугалплекс», а Лары ў адказ прапанаваў скарочанае «гугал» — ад англійскага Googol — лік, у дзясятковай сістэме злічэння выяўляецца адзінкай з сотняй нулёў. Але пры рэгістрацыі дамена Сін дапусціў арфаграфічную памылку і напісаў google.com. Дата рэгістрацыі — 15 верасня 1997 года.

## ЧАМУ СТРЭЛКА КУРСОРА МЫШЫ НАХІЛЕНА ЎБОК, А НЕ НАКІРАВАНА ВЕРТЫКАЛЬНА ЎВЕРХ?

Калі Дуглас Энгельбарт, вынаходнік камп'ютарнай мышы, ствараў чарцяжы свайёй прылады, то ў тлумачальных запісах 1981 года ён намаляваў курсор мышы вертыкальна ўверх, што было цалкам лагічна. Але калі такі варыянт вырашылі адлюстраваць у графічным інтэрфейсе аперацыйнай сістэмы Xerox, то з-за маленькага разрашэння манітора немагчыма было намаляваць вертыкальную маленькую стрэлку з пікселяў (адзіночных кропак), якая б выглядала больш-менш годна. Замест таго, каб павялічыць сам курсор, інжынеры нахілілі яго. Менавіта ў такім выглядзе курсор увайшоў і ў астатнія аперацыйныя сістэмы, нават са з'яўленнем манітораў больш высокага разрашэння.

## ЧАМУ НАЗОЙЛІВАЯ ЭЛЕКТРОННАЯ ПОШТА НАЗЫВАЕЦЦА «СПАМАМ»?

Слова SPAM з'явілася ў 1936 годзе — пад такой маркай амерыканская кампанія Hormel Foods выпусціла мясныя кансервы (SPicedhAM — ветчына са спецыямі). Пасля Другой сусветнай вайны, каб вызваліць склады і збыць рэшткі кансерваў ужо відавочна не першай свежасці, вытворцы правялі вельмі назойлівую рэкламную акцыю. Слова SPAM жыхары пасляваеннай Амерыкі маглі бачыць і чуць дзе заўгодна. У 1986 годзе Дэйв Родес пачаў рассылаць лісты з крыклівым загалоўкам: «Зарабі кучу грошай!» Па сутнасці, гэта была рэклама фінансавай піраміды, якая назойлівасцю ледзь не пераўзышла рэкламу тых кансерваў. Так слова SPAM замацавалася як нешта навязлівае, ад чаго не адчапіцца.

*Працяг будзе*

***Ягор ВАЛЕНКОЎ, праграміст***

# Што ў цябе там, пад партай?!




Мастачка Алеся ГАЛОТА

Напэўна, усім даводзілася імі карыстацца. Дрыжаць рукі, бегаюць вочы, сэрца б'ецца хутка-хутка… У галаве заўсёды толькі адна думка: «Абы пранесла...». А калі ўсё ж зловяць, даверу потым не вярнуць. Так, я кажу пра шпаргалкі, якія заўсёды прыходзяць на дапамогу, калі табе не ўдалося штосьці вывучыць. Цікава было б падслухаць, што кажуць пра шпаргалкі настаўнікі.

У настаўніцкай мінскага ліцэя № 2 падчас перапынку сабралася ледзь не цэлая нарада: Ніна Андрэеўна Дзісь, настаўніца рускай мовы і літаратуры, Марына Аляксандраўна Матусевіч, настаўніца фізікі, Фёдар Васільевіч Радзівонаў, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства, Наталля Валянцінаўна Сакратарова, настаўніца біялогіі.

***М. А.:*** — У мяне нядаўна адбыўся абуральны выпадак: забрала ў дзяўчынкі адну шпаргалку, потым другую, трэцюю, чацвёртую... Я адмоўна да гэтага стаўлюся! Шпаргалкі можна рабіць толькі ў тым выпадку, калі прадумваеш тое, што пішаш. Але ні ў якім разе нельга гэта выкарыстоўваць на кантрольнай! Усё павінна адкласціся ў галаве. Таксама я супраць рашальнікаў і ўсялякіх сайтаў-дапаможнікаў, таму што ў мой час, калі іх не было, дзеці ду-ма-лі. А цяпер яны — спісваюць і нават не бачаць памылак, дапушчаных у гатовых рашэннях.

***Ф. В.:*** — А я стаўлюся да шпаргалак цалкам адэкватна, таму што лічу гэта творчай формай апорнага канспекта навучэнца, які рыхтуецца да пэўнай формы заліковага занятка. І калі ацэньваць якасць таго дакумента, які называецца шпаргалкай, вучань мае права на атрыманне пэўнай адзнакі за тыя ўменні, якія ён дэманструе пры яе складанні. Вядома ж, я не магу не пагадзіцца з тым, што пры спісванні адбываецца скажэнне навучальнага працэсу. Гэтаму не павінна быць месца ў сістэме адукацыі, таму што гэта не дае магчымасці аб'ектыўна ацаніць той набор ведаў, уменняў і навыкаў, якім павінен валодаць навучэнец па заканчэнні пэўнага курса.

Адзінюткі раз у сваім жыцці я выкарыстаў шпаргалку пры здачы экзамену, калі вучыўся ў ВНУ, з таго часу ніколі не карыстаюся імі. Я зразумеў, што шпаргалка паралізуе мозг. Але мой аднакурснік неяк трапіўся са шпаргалкай выкладчыку, якому ніхто не мог нармальна здаць залік. Той адабраў шпаргалку, прачытаў і запатрабаваў залікоўку. Запісаў там нешта, сказаў: «Вольны». Студэнт быў упэўнены ў тым, што ў яго стаіць «нездавальняюча» і яго адлічаць з-за непаспяховасці. А паглядзеў у залікоўку — 4 балы (з 5-і)! Аднакурснік акінуў выкладчыка здзіўленым позіркам і пачуў: «Я ў сваім жыцці ніколі не бачыў больш разумнай шпаргалкі». Гэта быў той выпадак, калі ў працэсе афармлення папяровай падказкі вучань думаў, што пісаў.

***Н. А.:*** — Мяне хвалюе праблема спісвання вучняў. Але зараз да шпаргалак звяртаюцца ўсё часцей і часцей, дастаткова толькі націснуць кнопачку на тэлефоне і яна выскачыць. Яе нават пісаць не трэба! У наш час шпаргалкі былі іншыя: мы пісалі іх ад рукі, і падчас сесіі яны служылі асноўнай крыніцай інфармацыі. Але я ніколі не ўмела імі карыстацца.

***Н. В.:*** — А ў мяне няма стэрэатыпу пра тое, што шпаргалка — гэта заўсёды дрэнна. Бо калі ты яе пішаш, ты паўтараеш увесь матэрыял. Але гэта ў тым выпадку, калі ты не проста сфатаграфаваў, а сапраўды пішаш, удумліва. Я лічу, што, знайшоўшы такую шпаргалку ў вучня, яго не варта моцна лаяць і караць. Але тут ужо спрацоўвае настаўніцкі інстынкт: падыходжу, забіраю, стаўлю «мінус бал». Папярэджваю спісвальшчыка, што ён цяпер пад кантролем. Ужо гэта для яго псіхалагічна непрыемна.

Пісаць шпаргалкі трэба. Іншая справа, скарыстацца ёй ці не. Можна ж напісаць і зразумець, што ты і так ужо ўсё запомніў. Ёсць тыя, хто піша і дома пакідае.

***М. А.:*** — Памятаю, ва ўніверсітэце я прыгатавала шмат шпаргалак па адным жахлівым прадмеце. Дзе я толькі іх ні схавала! Уся была імі нашпігавана! Але ніводнай не скарысталася. Напэўна, у мяне шчаслівая рука, таму што я выцягнула білет, які ведала. Мне наогул заўсёды шанцавала. А яшчэ я неяк дапамагала сваёй сяброўцы, тады было вельмі модна карыстацца на іспытах спецыяльнымі навушнікамі. Я ёй дыктавала адказы. Давялося пайсці супраць сваіх жа прынцыпаў, бо гэта для сяброўкі.

***Н. В.:*** — У нас ва ўніверсітэце анатомію выкладаў вельмі строгі прафесар. Усе зубрылі матэрыял перад яго заняткам. А адзін раз прыходзім — сядзіць малады выкладчык, які сёння будзе прымаць у нас залік замест прафесара. Усе адразу селі ад яго далей, адкрылі падручнікі і сталі адказваць, чытаючы з іх. Настаўнік ставіў усім добрыя адзнакі. І я думаю: «Ого, якая лафа! Можна на халяву атрымаць пяцёрку!» І таму спакойна адкрыла падручнік. Я не ўлічыла, што ў мяне дрэнны зрок. Мне даводзілася то нахіляцца, то аддаляцца ад падручніка, каб хоць што-небудзь убачыць. У выніку настаўнік заўважыў і пасарамаціў. Тады я зразумела, што спісванне і халява — гэта не для мяне. Заўсёды трэба разлічваць на сябе.

***Ф. В.:*** — Ды я кожны раз, рыхтуючыся да правядзення ўрока, раблю так званыя шпоры! Падчас іх складання ў мяне ідзе творчы працэс: трэба абдумаць, які матэрыял даць навучэнцам, чаму іх навучыць і што павінна атрымацца ў выніку…

***Ксенія САСНІНА, ліцэй № 2, Мінск***



Святлана Сітнік

# Як лёгка вывучыць верш

Трайны ўдар па хатнім заданні!

Усе ведаюць: зададзены на памяць верш — рэальны шанец атрымаць па літаратуры выдатную адзнаку. Але як жа не хочацца марнаваць час на завучванне — такі нудны і сумны занятак. А чаму ён менавіта такі? Толькі таму, што ты не ведаеш цікавых спосабаў вывучыць верш лёгка і хутка! Даведайся, выкарыстоўвай і атрымлівай выдатныя адзнакі!

## ЗВЯРНІ ЎВАГУ НА НЕВЯДОМЫЯ СЛОВЫ

Некалі мы вучылі верш Янкі Купалы «Я мужык-беларус». Калі ты таксама яго ўжо вучыў, то мо і памятаеш першыя радкі:

Я мужык-беларус, —
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пядзі дзве валасы.

Мая аднакласніца ці то ад няўважлівасці, ці то не знайшоўшы тлумачэння незразумелага ёй слова «пядзі», якое раней азначала меру даўжыні, унесла ў верш вялікага беларускага паэта «разыначку»:

Я мужык-беларус, —
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пяцьдзясят дзве валасы.

І я ўпэўнена, што тады ўвесь наш клас, даволі нарагатаўшыся, засвоіў яшчэ адзін жыццёва важны ўрок: верш патрабуе ўважлівага вывучэння!

Каб не ўляпацца, не спяшайся — даведайся пра невядомае табе слова як мага болей: што яно значыць, дзе трэба ставіць націск. Незразумелыя словы патрабуюць аўтаматычнага завучвання, а разам з тым і бессэнсоўнага зубрэння цэлага сказа, а то і слупка. Сэнс ідэі, якую даносіць аўтар, незразумелы, і даводзіцца запамінаць бязглуздзіцу, а гэта, ты ведаеш, вельмі няпроста. Ты напружваеш памяць, марнуеш

дадатковы час, прыкладаеш вялікія намаганні. Куды прасцей — адкрыць «Гугл» ці пагартаць тлумачальны слоўнік і пазнаёміцца са словам бліжэй. Гэта толькі на першы погляд здаецца, што час губляецца дарма: у выніку — наадварот, зарабляеш бал!

## ПАДБЯРЫ ДА ТЭКСТУ МУЗЫКУ

«Я вывучыў верш за пятнаццаць хвілін!» «Хіба так бывае?» — здзівіўся Улад, 11 гадоў, калі мы паспрабавалі з ім гэты метад. Канешне, бывае, бо сакрэт метаду хаваецца ва ўласцівасці памяці: песні мы запамінаем хутчэй, чым «сухія» тэксты. Варта тры разы праслухаць песню, як ты ўжо лёгка можаш яе напяваць: не напружваючы памяць, успамінаць, што было ў тым куплеце. Чаму не паспрабаваць вывучыць верш як песню? Проста дадай мелодыю!

Калі ты любіш рэп — паспрабуй прачытаць верш так, быццам гэта тэкст крутога рэпера. Весела, ці не так? А цяпер уяві, што ты зорка сцэны, а вакол цяпе натоўп фанатаў. Чытаць верш як рэперскія тэксты не толькі весела і цікава — гэта яшчэ трэніруе маўленне: цяпер дэкламаваць верш ля дошкі будзе прасцей!

Ты можаш прыдумаць пад зададзены верш які заўгодна матыў: меладычны — да лірычнага, рытмічны — да патрыятычнага… Цяпер гэта песня — спявай яе. Праспявай колькі разоў, пажадана ўголас.

Па-першае, прагаворваючы тэкст зараз, ты рыхтуешся да адказу ля дошкі. Многія вучні, прывыкшы вучыць параграфы пра сябе, сутыкаюцца з невялічкай праблемай: ім трэба не толькі «даставаць» матэрыял з памяці, але і прагаворваць яго, задзейнічаць мову. А яна — не гатовая! Гэта як выхад спартсмена на бегавую дарожку, каб бегчы дыстанцыю з перашкодамі: ён жа рыхтаваўся бегчы, а не пераскокваць! Што будзе? Не дабяжыць ён першым.

Твая перамога — гэта выдатны адказ ля дошкі, таму праспявай верш уголас некалькі разоў. А потым гэты верш прагавары. Такая трэніроўка дакладна адаб’ецца на выніках.

Па-другое, прагаворваючы верш, мы задзейнічаем і слых таксама. Верш запамінаюць не толькі вочы і язык, але і вушы! Гэткі трайны ўдар па хатнім заданні!

## ВУЧЫ Ў ПЕРШЫ ДЗЕНЬ І Ў АПОШНІ

Многія вучні вучаць вершы ў вечар перад урокам. Яны марнуюць шмат часу, бо вучыць усё адразу — неэфектыўна. Больш правільна — з улікам асаблівасцей памяці — разбіць вучэнне на часткі, на некалькі разоў. Напрыклад, чытаць яго, робячы перапынкі ў адзін-два дні.

Прачытай верш, як толькі табе яго задалі. Літаральна на бліжэйшым перапынку, калі дазваляе час, або дома. Праз дзень — зноў адкрывай падручнік — прачытай верш, а лепш праспявай, пастарайся пераказаць (праспяваць або прачытаць як рэп). Калі надыдзе час рыхтавацца да ўрока, ты ўжо амаль будзеш ведаць гэты верш. Дастаткова паўтарыць, прагаварыць, каб лягчэй было ля дошкі), праверыць сябе, і, калі верш складаны, паўтарыць яшчэ раз.

Цані час на ўроку — не марнуй яго дарэмна. Не выходзь адказваць першым — слухай, як адказваюць іншыя: так ты яшчэ колькі разоў паўторыш тыя месцы, якія былі для цябе складанымі.

Паспрабуй вучыць вершы, выкарыстоўваючы «таемныя» веды, — і ты ўбачыш, як гэта лёгка і цікава! Час трэба эканоміць: ты ж ведаеш, на што яго лепш пусціць?..




# Юзары: «Не верыш у сябе — не выходзь на сцэну»

***Тое, што Юзары вылучаецца сярод беларускіх музыкантаў, зразумела з першых гукаў. Гэта ўражанне паглыбляецца, калі размаўляеш з ім асабіста. Безумоўны талент, натхняльнік шэрагу новых маладых выканаўцаў і проста сапраўдны эльф распавядае пра сваё незвычайнае дзяцінства, дзеліцца меркаваннем наконт самых важных пытанняў і дае трапныя парады, да якіх варта прыслухацца!***

## ПРА ДЗЯЦІНСТВА

Чалавеку, які вучыўся ў звычайнай школе, можа здавацца, што ў мяне не было дзяцінства. Хлопцы-суседзі, якія гулялі ў футбол, рэдка бачылі мяне за гэтым ці якім-небудзь іншым хлапечым заняткам. Я вучыўся ў школе і ліцэі, па 12-14 гадзін знаходзячыся там, а ў час, што праводзіў дома, рыхтаваўся да наступнага дня. Для мяне гэта суперпадрыхтоўка, якой я займаюся і цяпер, загартоўка, якая дапамагае адчуваць сябе як рыба ў вадзе на любым

праекце. Ліцэй я не скончыў, бо мяне цікавіла піяністычная субкультура. Аднойчы, калі трэба было выбіраць паміж рознымі інтарэсамі, я выбраў тэатр і музыку.

У дзяцінстве для мяне святам была навальніца. Яна пачыналася — і мы з бацькам пад дажджом беглі ў гараж, адкуль было бачна ўсё неба, і назіралі за маланкамі. Такія падзеі для мяне больш прыемныя, чым пабіць петарды з хлопцамі. У мяне заўсёды было няшмат сяброў, цяпер іх амаль няма. Ёсць людзі, якія часам цягнуць нас уніз, а мы і не заўважаем гэтага.

Памятаю, мы два гады жылі ў Германіі (бацька тады быў на гастролях) у адной немкі, вельмі добрай і спагадлівай. На мой дзень нараджэння яна прывяла мяне ў падвал, дзе стаяла лядоўня, поўная марозіва. Гаспадыня падрыхтавала яго спецыяльна для мяне, бо я яго вельмі люблю. Яе звалі Урзула. Сапраўднае шчасце — лядоўня марозіва, якім я магу распараджацца, як захачу.

Я і цяпер стаўлюся да ўсяго як дзіця. Гэта вынік акцёрскага выхавання: найлепшыя акцёры — дзеці. Калі будзеш, як дзіця, упітваць усё ў сябе, тады застанешся самім сабой. Калі будзеш глядзець, як робяць іншыя, і сам рабіць, як нехта, тады сябе згубіш.

## ПРА САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ І ТЭАТР

Першае выступленне, дзе я хваляваўся, — выпускны спектакль у 11-м класе. Мы ставілі яго паводле санетаў Шэкспіра. Кожны рабіў маленькую пастаноўку, а потым яны складаліся ў агульны спектакль. Тое, што я хацеў зрабіць на свой санет, цягнула на асобны спекталь, таму вырашылі, што я буду ўдзельнічаць у кожнай з маленькіх імпрэз. Выглядала вельмі арганічна, я паспрабаваў сябе ў розных амплуа. Гэта было маё першае немузычнае выступленне. Адразу ж пасля заканчэння школы я паехаў паступаць ва Універсітэт культуры і мастацтваў у Санкт-Пецярбург. Потым выйшаў на вялікую сцэну тэатра «Мюзік-Хол», ужо ў якасці спевака і акцёра, і граў прэм'еру, калі быў яшчэ першакурснікам. Было няпроста, але я не адчуваў цяжкасцей, а кайфаваў. Хтосьці расчароўваўся, ламаўся і сыходзіў, а я — атрымліваў асалоду. Усё было інакш, чым раней уяўлялася.

## ПРА МУЗЫКУ

Маімі прыкладамі ў музыцы былі Майкл Джэксан, Стыві Уандэр... Але я не быў фанатам, гэта былі настаўнікі, якіх выбіраў я сам. Самае «цяжкае», што я слухаў, — «Рамштайн». Мяне прываблівають настрой, ідэалогія, і не важна, які гэта жанр.

Я не люблю музыку «непісьменную» (на ўзроўні маіх адчуванняў). Я з сям'і музыкантаў, музыка ўва мне закладзена, я адчуваю, дзе «фірмова» гучыць, а дзе не. Мне не падабаецца, калі музыка пачынае быць матэматычнай — праз капіраванні і перастаноўкі нот.

Я не хвалююся перад выступленнямі. Хваляванне з'яўляецца тады, калі ты чагосьці не ведаеш ці робіш нешта ўпершыню. Я вельмі адказна рыхтуюся да сваіх выступленняў, таму выступаю з асалодай. Нават калі буду спяваць на стадыёне, пасля сцэны Юрмалы і Еўрабачання хвалявання ўжо быць не павінна.

## ПРА ЎПЭЎНЕНАСЦЬ І ВЕРУ

Я часта мяняў школы, бо ў мяне ёсць сваё меркаванне на ўсё. Былі спрэчкі на розныя тэмы, асабліва ў тым, што датычыцца музыкі. Так працягвалася



і ў Санкт-Пецярбургу. Я не буду рабіць тое, што мне сказалі зрабіць і забыцца. Магчыма, мяне за гэта не любяць, але паважаюць.

Атрымліваецца, што я дасягаю ўсяго, чаго хачу. Калі нават пачну займацца не музыкай, а кіно ці чымсьці яшчэ, я буду дзейнічаць па тым жа прынцыпе. Мне не важна, якой справай займацца, забяры ў мяне ўсё — я пачну нанова ў любой сферы. Гэта самавалоданне, дысцыпліна і некалькі працэнтаў таленту — пяць ці нават два. Таму што астатняе — гэта праца. І вера ў сябе. Калі ты ў сябе не верыш, у цябе ніхто не паверыць ніколі. У такім выпадку не выходзь на сцэну, нават не спрабуй.

Не трэба баяцца памыляцца. Памылкі набліжаюць поспех, а ён адразу не прыходзіць. Негатыў, які акружае артыстаў, падштурхоўвае рабіць яшчэ больш і быць яшчэ мацнейшым. На самай справе, няўдачы дапамагаюць працаваць лепей.

Я не бачу максімуму ў кар’еры, ён настолькі далёкі, што я буду ісці да яго вельмі доўга. Магчыма, дайду ўжо ў сталым узросце, але іду і разумею — бліжэй і бліжэй.

## ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ ТАЛЕНТ

Калі я даведаўся, што паступіў, чатыры разы тэлефанаваў у Санкт-Пецярбург і перапытваў: «Вы не памыліліся, вы дакладна мяне ўзялі?» Я паступіў на «бюджэт» пры конкурсе паўтары сотні чалавек на месца. Мне адказалі: «Так. Ты ж беларус. У вас таленавітая краіна». Калі я вучыўся ў Пецярбургу, перапрацоўваў беларускія песні проста таму, што сумаваў па Радзіме. Я адрозніваўся ад іншых, і мне казалі: «Вы, беларусы, па-свойму ўсё робіце. Не горш і не лепей, проста інакш». І гэта ключ — рабіць усё па-свойму.

## ПРА ЮРМАЛУ І ЕЎРАБАЧАННЕ

Я люблю планаваць і дасягаць. Люблю па кроках рухацца і прыходзіць да мэты. Паставіў задачу выступіць на сцэне «Новай хвалі» — выступіў, вырашыў, што паеду на «Еўрабачанне» — паехаў. На «Новую хвалю» трапіў выпадкова — нават заяўку не я адпраўляў. Мая мама таемна ад мяне даслала мае дэма-запісы (нармальнага матэрыялу ў мяне не было), і па іх я прайшоў. У мяне ёсць яшчэ адна мэта — сольны канцэрт. Канцэрт Юзары, як я яго сабе ўяўляю, — гэта вялікае мерапрыемства, а не проста канцэрт для «плюсіка» ў спісе. Гэта нешта маштабнае, у межах якой-небудзь акцыі, вялікае шоу. Мне цікава прываблiваць людзей займацца творчасцю.

***Запісала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

*Аўтар рубрыкі Ліна Багданава*

# Прыступкі




Мастачка Алеся ГАЛОТА

Алежка падышоў да ганка школы. Азірнуўся. Нікога. Удыхнуў глыбей паветра, быццам нырнуць сабраўся, і ступіў на першую прыступку. Трошкі пачакаў, выдыхнуў — і прыступам узяў другую. Як заўсёды няўдала — і што ты будзеш рабіць!

На гэты раз пад нагу трапіў каменьчык. Як на тое круглы. Нага паехала ўбок, хлопчык няўклюдна паспрабаваў утрымаць раўнавагу.

— Раскарака цётка Крака! — пачулася за спінай.

А нікога ж не было! Алежка азірнуўся ў бок крыўдзіцеля і паляцеў уніз. Ляцець было недалёка. І пасадка атрымалася не надта цвёрдай. На ранец. Затое крыўда захіснула няўдачніка з ног да галавы. Ну чаму так не шанцуе?

Усё пачалося з другой прыступкі. Не, злашчасная прыступка школьнага ганка, на якой Алежку традыцыйна падпільноўвалі розныя выпрабаванні, была ні пры чым. Хоць размова менавіта пра школу. Сёлета ён стаў пяцікласнікам — як сказаў на ўрачыстай лінейцы дырэктар, «паспяхова штурмаваў другую прыступку сярэдняй адукацыі».

Якое там паспяхова! На «пяць з мінусам». Па «дзесяцібалцы». Неяк не склалася ў яго з пятым класам. Цяжка прыціраўся. І да новых аднакласнікаў, бо тры класы сабралі ў два, і да мноства новых незнаёмых вельмі строгіх настаўнікаў замест адной вельмі добрай, амаль што роднай Зінаіды Паўлаўны, і да раскладу. Асабліва не склалася з апошнім. Не, у дзённіку роўнымі радамі акуратна значыліся ўсе «матэмы», «русішы», «белліты» і «гісторыі». А вось на мясцовасці…

Алежка ўздыхнуў. Падняўся, не гледзячы на насмешніцу. Агледзеў штаны. На гэты раз пашанцавала — калені засталіся цэлымі.

Асцярожна перайшоў прыступку і ўвайшоў у школу.

Знаёмы з першага класа хол, за ім — калідор. Трэція па ліку дзверы — іх былы 4 «А». Канешне, цяпер не да яго Зінаідзе Паўлаўне: дваццаць чатыры першачкі патрабуюць увагі.

Ды і скардзіцца неяк няёмка. Тым больш, тыкацца ў роднае цёплае плячо. Малеча засмяе. Ды і перад сабою сорамна.

Ён зноў уздыхнуў. Здаў у гардэроб куртку і паплёўся на другі паверх. Асуджана і безнадзейна. Менавіта тут пачыналіся яго праблемы. Складаныя і цалкам дарослыя. Алежка губляўся ў лабірынце калідораў і кабінетаў, як гараджанін у лесе. Два крокі — і гушчар. Куды ісці? Што рабіць?

Зазірнуў у дзённік. Што і патрабавалася даказаць, першым урокам ішла матэматыка. Вось толькі дзе? У трынаццатым? Ці трэба падняцца на трэці паверх?

— Хлопчык, ты заблукаў?

Ага, вось ён так проста возьме і скажа: «Так, цётачка, я згубіўся, спужаўся. Я маленькі і дурненькі, які ўявіў сябе вялікім самастойным старшакласнікам…» І ўсё такое. А цётачка вось так проста возьме, абдыме, прыгалубіць і адвядзе куды трэба. І ўсе вакол будуць глядзець на іх сумнымі добрымі вачыма.

Ды тут жа абступяць і засмяюць! Пачнуць абзываць усялякімі крыўднымі словамі. Потым доўга яшчэ будуць паказваць пальцам: глядзіце, маўляў, на бязглуздага сапліўца!

Алежка ўціснуў галаву ў плечы, буркнуў нешта сабе пад нос і бокам адступіў на лесвіцу. На трэці дык на трэці! Яму якая розніца? Да званка яшчэ дзесяць хвілін. Прагуляецца. Калі пашанцуе, сустрэне сваіх, а там…

Ой, толькі б не перастаноўка! Бо з перастаноўкай урокаў блытаніна параўноўвалася па маштабах з ураганам ці землятрусам — зразумей тады, матэматыка ці працоўнае навучанне, а мо і наогул фізра. Рука ўжо цягнулася ў ранец: ці на месцы форма? І ногі подкошваліся, а па спіне паўзлі мурашы: спартыўнай формы ў ранцы няма! Па простай прычыне: у раскладзе ўрокаў фізра сёння не значыцца. Але ці гэта цікавіць перастаноўку? Цяпер бы да Зінаіды Паўлаўны — з ёю ніякія катаклізмы не страшныя, усё здаецца зразумелым і такім з’яўляецца.

— Міхайлаў, ты чаго тут? У вашых працоўнае навучанне.

Алежка нервова хітнуў плячом, абыякава павітаўся з былым аднакласнікам:

— Ды так, да сябра зазірнуў.

І пайшоў да выхада: працоўнае навучанне праходзіць у майстэрні. Значыць, перастаноўка. Ці гэта жарт? Як тут у прасак не трапіць? У сто дваццаць першы раз. Не, здаецца, працоўнае навучанне ў іх у пятніцу. А сёння…

Думаць пра каляндар і іншыя вучэбныя праблемы не хацелася. Хацелася вярнуцца ў чацвёрты клас. Сесці на старое месца. Выцягнуць з парты каробку з пластылінам — працоўнае навучанне як працоўнае навучанне — і гучна пракрычаць:

— Гэй, людзі! Хутка званок. Па ме-есцах!

Алежка падышоў да гардэроба.

— Ужо назад? — пільна пацікавілася цётка Рая. — Сачкуеш?

— Працоўнае навучанне ў нас… — няўпэўнена працягнуў Алежка, на ўсялякі выпадак адварочваючыся ад празорлівай суразмоўцы. А раптам прачытае па вачах? І нікуды не пусціць. Мала, што ён прыняў рашэнне: калі не працоўнае навучанне, дык дадому. Не ўвесь жа час пакутаваць, можна калі-нікалі зладзіць сабе маленькае свята. Мама і тата ўжо пайшлі на работу, ніхто нічога не заўважыць…

***Прасунуты старшакласнік:***

— І не думай нават ісці дамоў! Падумаеш, расхваляваўся, першы раз у пяты клас. Усе там былі! І ўсе там будуць! Не рабі трагедыі з глупства. Пацярпі, дружок. Тыдні два. А там будзеш электравенікам па школе ганяць. Гэта табе не лес дрымучы — пуп цывілізацыі! Тут усё схоплена: дзяжурныя ёсць — ад вучняў да завуча, і, як у песні, на ўсе пытанні знойдуць тут адказы. Потым, расклад — для такіх, як ты, і вывешаны. Варта паглядзець уважліва і ўключыць мозг, як

убачыш, што побач з кожным урокам нумар кабінета стаіць. І захочаш заблукаць, дык не атрымаецца. Пра класную не забудзься. А калі пашанцуе, то пра класнага. Гэта наша галоўная палачка-выручалачка. Сапраўднае бюро добрых паслуг. Тут табе і расклад, і перастаноўкі, і чыстыя насовачкі. Так што не тушуйся, лічы, што табе пашанцавала. Другая прыступка — гэта вялікія магчымасці. Сам хутка ўсё зразумееш. Удачы!

***Вопытны псіхолаг:***

— Дарэчы, у названым лесе ты не адзін. Каля 40 працэнтаў пяцікласнікаў пакутуюць у перыяд адаптацыі (прывыкання, прызвычайвання) да новых умоў жыццядзейнасці. Так, сітуацыя памянялася. Так, памянялася даволі крута. Але не панікуй. Па-першае, праблемай трэба падзяліцца, што ўжо само па сабе з'яўляецца часткай стратэгіі яе вырашэння. Падзяліцца ёсць з кім: бацькі, настаўнікі, аднакласнікі. Не хочаш скардзіцца — задавай пытанні. Не хочаш даймаць пытаннямі блізкіх людзей — пытай парады. Не хочаш пытаць — прызаві іх да парады: дзяліся ўражаннямі ад нейкай прыдуманай асобы: «А вось адзін хлопчык з суседняга класа ніяк не можа прывыкнуць (вечна ўсё блытае, спазняецца, саромеецца)». Выдатна спрацоўвае! Людзі вельмі любяць даваць парады. Па-другое, у школе створана сістэма пераадольвання праблем такога кшталту. Будзь упэўнены — днямі да вас зазірне псіхолаг і правядзе захапляльны занятак, сэнс якога — у сплачэнні класа і выхадзе на канструктыўныя рашэнні. У псіхолага, увогуле, заўсёды цікава. І карысна. Забягай, разам нешта прыдумаем. І ўжо да канца першай чвэрці табе спадбаецца вучыцца ў пятым класе. Абавязкова спадабаецца!

***Сімпатулька:***

— Бедненькі, бедненькі, бедненькі! Як жа табе цяжка ў першыя дні! Але азірніся, не саромейся, звяртайся па дапамогу. Мы, старшакласніцы, ніколі не пройдзем міма мілага ўстрывожанага пяцікласніка. Вы такія кранальныя ў сваіх сумненнях і страхах. А мы ўжо шмат што перажылі, выпрабавалі. І рады дзяліцца досведам. Абавязкова дапаможам!

***Клапатлівая бабуля:***

— Ой, міленькі мой! Знайшоў пра што бедаваць! Ды вывучышся, не пакутуй. І кабінет патрэбны знойдзецца, і настаўніца. Ніхто яшчэ са школы невукам не сышоў, і ты справішся. А я дапамагу. Задачку з «зорачкай» разам рашаць будзем. І на пытанні да апавядання адкажам. А на вячэру я тваіх любімых сырнічкаў напяку. Не на адной школе жыццё трымаецца. Так, і не забудзь грошы на харчаванне. У пенале ляжаць. Мала што нервуешся, дзе не трэба, дык яшчэ расцеш марудна.

***Першакласнік з яблыкам:***

— Ужо пяцікласнік! Шанцуе! Мне яшчэ трубіць і трубіць. Мая парада: пасябруй з цёткай Раяй. Яна не горш за настаўніка ў школе ўсё ведае. І адвядзе, і пакажа. І не дасць пакрыўдзіць. Я сто разоў спрабаваў: супер-сродак! Хочаш, яблычкам пачастую? Супакойвае імгненна.



Мастачка Аліса МАТАВІЛАВА

# Гэта клёны дасылаюць нам ад восені лісты

*Наталля ІГНАЦЕНКА*

## ВЯНОК

Даплятала дзеўчына з кветачак вянок.
Там рамонкі белыя, сіні васілёк.
Загадала ў думках, каб мара збылася.
Задуменна да ракі басанож прайшлася.

І пяшчотна на ваду вянок апусціла —
Можа знойдзецца і ёй той адзіны, мілы.
А затым праводзіла поглядам вяночак,
Хоць даўно не верыла ў цуд купальскай ночы.

А вяночак з хвалямі да лодкі прыбіўся.
Хлопец, вёслы кінуўшы, на яго дзівіўся.
Як прыгожа сплецены кветкі лугавыя,
Іх пялёсткі свецяцца фарбамі жывымі.

Па рацэ па ранішняй лодка ўверх плыла.
Знойдзе хлопец дзеўчыну, што вянок спляла.

## БЯРОЗКА І ДУБ

Падрастала бярозка
на лясной баравінцы
І цягнулася ў неба
сваёй верхавінкай.
А бяроста была ў яе
тонкай і белай,
І на ранішнім сонцы —
як снег зіхацела.
Ствол быў гнуткім, прамым,
нібы ў юнай дзяўчынкі,
І пад ветрам згінаўся,
нібыта травінка.
Побач дуб сваё голле
раскінуў шырока.
Ён вакол сябе дрэвы
рассунуў далёка.
У бярозку быў дуб
закаханы на дзіва.
Ды бярозка не стала
ад таго ганарлівай,
А галінкамі тонкімі
дуб абдымала
І мелодыі ветру
яму напявала.
Ну, а дуб бараніў
ад напасцяў бярозку,
Ад халоднага ветру,
ад сцюжы марознай.
І шурпатым ствалом
укрываў ад завеі,
Птушак прэч праганяў,
каб сюды не ляцелі.
Зберагаў ён бярозку
ад турбот і самоты,
Летам цень ёй даваў
ад празмернай спякоты.
Толькі ноччу адной
разгулялася бура
І знянацку на дуб
наляцела віхура.
І яго расшчапіла
маланкай на трэскі,
А бярозка ад жаху
галінкамі трэсла.
Ну, а потым яна
быццам штосьці пачула
І да неба галінкі
свае працягнула.
З чорнай хмары маланка
на бярозку зляцела –
Жыць без дуба, адна,
яна так не хацела…

*«Менавіта дзеці — мае галоўныя Настаўнікі, чытачы і крытыкі, — лічыць Наталля Ігнаценка. — Бо я пішу для іх, і хто, як не дзеці, скажа, што ў гісторыі няпраўда?»*

## ВЯСНОВЫ ДЗЯНЁК

Стала сонейка ўсміхацца.
Будзіць промнямі людзей.
Вераб'і ў раўчук глядзяцца
І чырыкаюць смялей.

Так сінеча вочы слепіць —
Не зірнуць на небасхіл.
З-пад зямлі травінкі лезуць,
Каб затым набрацца сіл.

Кот брыдзе праз агароды.
Проста цуд, а не дзянёк!
Кветак непаўторны водар
Чутны, тонкі, як намёк.

Хто быў сумным — той смяецца,
Як раўчук, жыццё бурліць.
Сэрца ўсхвалявана б'ецца.
І вясну ўжо не спыніць!

***Нягледзячы на тое, што існуе 43 252 003 274 489 856 000 становішчаў кубіка Рубіка, памерам 9 на 9 квадрацікаў з кожнага боку, некаторыя «знаўцы» вырашаюць гэтую галаваломку за 27 хадоў і нават менш.***

## МОЙ ВЕРАСЕНЬ

Што ж лістота залатая
Сёння з ветрыкам на «ты»?
Гэта клёны дасылаюць
Нам ад восені лісты.

Сонца ў лужыну глядзела,
Ды за воблачка ўцякло.
Павуцінне прыляцела,
Апусцілася на шкло.

Астры просяцца ў букеты,
Хрызантэмы сталі ў рад.
Зноўку мода на берэты.
Пахне яблыкамі сад.

Неба ўсё часцей прыносіць
Дождж на мокрую зямлю…
Нарадзілася я ў восень
І таму яе люблю!

## СУКЕНКА

Сёння ў восені прасіла
Мне хутчэй сукенку сшыць.
Каб яе я так насіла,
Што змагла б усіх здзівіць.

Не з тканіны нейкай таннай,
А з лістоты залатой.
Замест гузікаў — каштаны
Будуць на сукенцы той.

З вераснёўскай павуціны,
Нібы з шоўку, будзе шаль.
І каб завяршыць карціну —
Звяжа павучок вуаль.

Пацеркі ў рабін папросім,
Завушніцы — хай з расы.
А вяргінь пялёсткі восень
Упляце мне ў валасы.

Ды адна хвалюе дробязь:
Доўга мне заказ чакаць!
Што ж, пакуль сукенку зробяць,
Я не буду сумаваць.

## ВОСЕНЬСКІЯ ТРАФЕІ

Сонейка восені ў клас зазірнула,
Вось і апошні закончыўся ўрок.
Вучняў з-за парт нібы ветрыкам здула,
Толькі паспеў штосьці дзынкнуць званок.
Хлопцы са школы імчацца галопам,
Ды і дзяўчатам не след адставаць.
Праменька ў сквер ірванулі ўсе скопам —
Трэба асенніх трафеяў набраць.
Тут іх багата, нічога не скажаш!
Верасень дорыць усім ураджай.
Столькі багацця — ну як не заўважыць?
Тут, пад нагамі, — ты толькі збірай!
Вось, паглядзі: ля нямога фантана
Шарык калючы змарыўся ляжаць —
Перад карычневым глянцам каштана
Нават дарослым не проста ўстаяць.
Дружна дзяўчынкі кароны сплятаюць.
Што за лістоту ім клён падарыў!
Хлопчыкі тут жалуды падбіраюць,
Ноччу іх дуб састарэлы згубіў.
Поўны партфель (хай пасунуцца кніжкі!).
Гэты працэс штогадовы, святы!
І жалуды, і каштаны, і шышкі –
Кожны сабраў свой запас залаты!

***З рускай пераклаў Генадзь АЎЛАСЕНКА***

***У першы тыдзень пасля Новага года ў Японіі прадаюць «фукубукуро», што ў перакладзе азначае «шчаслівыя мяшкі». Купляючы іх, ніхто не ведае, што нутры. Хтосьці знаходзіць нешта дробязнае, а іншы — такое, што куды даражэй за тыя грошы, што ён аддаў за «фукубукуро».***

*Наталля БУЧЫНСКАЯ*



# Выбух у куратніку

Сябры стаялі пад акном і клікалі Сяргея на вуліцу. У іх руках зманліва падскокваў футбольны мячык. Хлопчыку і самому карцела хутчэй апынуцца разам з імі, бо, пэўна ж, у яго мячык скакаў бы куды больш высока! Гэта праўда. Гэта вакол яго круціліся ўсе думкі хлопчыка, спадзяванні і нават здарэнні. Мячык, і гэта таксама праўда, быў крыніцай усіх непрыемнасцей, якія выпадалі на долю

Сяргея. А дакладней, не сам мячык, а неверагодная трапнасць удару былі таму прычынай.

Яшчэ нават месяц не прайшоў, як пацэліў у гадзіннік. Ён, амаль зусім новенькі, вісеў на сцяне і ціхенька рабіў сваю адвечную справу — адлічваў хвілінкі. А Сяргею ў той дзень вельмі не шчасціла. Шыбу суседу яшчэ раніцай разбіў, ідучы ў школу. А ўсяго ж і збіраўся толькі адзін пас зрабіць перад тым, як бегчы на ўрокі. Вось і пацэліў… А што вы думаеце, так кожны пацэліў бы? Сумняваюся. Затое Сяргей быццам і не вельмі прыцэльваўся… Цікава, можа, паміж яго мячыкам і суседскай шыбай які-небудзь загадкавы магнетызм існуе? Бо чамусьці сустракаліся яны (мячык і шыба) з зайздроснай рэгулярнасцю. Дарэчы, гэта не ішло на карысць самой шыбе, не радавала бацькоў хлопчыка, і, вядома ж, не было даспадобы суседзям.

Але размова ішла пра гадзіннік… Вось як было: бацькі пакаралі Сяргея за чарговую разбітую шыбу і не пусцілі гуляць на вуліцу. І адбываў ён сваю пакуту дома. Адзін. Бацькі яшчэ не вярнуліся з працы. Урокі сяк-так былі зроблены, падручнікі і сшыткі надзейна схаваны ў глыбіні партфеля. Пэўна ж, вярнуўшыся дамоў, бацькі не стануць чакаць, пакуль ён, корпаючыся, будзе цягаць адзін за адным сшыткі на праверку. Пытанне «чым заняцца» нават не паўставала. Мячык сам скокнуў у рукі. І пачалася гульня: тры разы адбіць мяч ад сцяна па-над гадзіннікам, пяць разоў пад ім. Ды нядоўга гульня доўжылася: сумна крэкнуў гадзіннік, шкельца асыпалася на падлогу з сухім шоргатам, стрэлкі замёрлі. «Зноў пацэліў», — мільганула сумная здагадка. А наступства гэтага — новае пакаранне.

***Дзіцячая пісьменніца Наталля Бучынская — даўні сябар «Бярозкі»: менавіта на старонках нашага часопіса былі надрукаваны яе «Незабыўныя сустрэчы з авечкай Адэляй», якія потым выйшлі асобнай кніжкай у выдавецтве «Мастацкая літаратура».***

Можа, бацькам трэ было хоць раз для прыліку пакараць сам мячык. Да прыкладу, замкнуць яго ў кладоўцы. Можа, тады скончылася б гэтая серыя трапных удараў. Але Сяргей так упрошваў бацькоў не пазбаўляць яго самага надзейнага сябра, што бацькі адступаліся. І зноў запіралі іх разам.

А сённяшні дзень быў асаблівы, амаль святочны! Ужо некалькі дзён усе навакольныя шыбы былі цэлыя! Гісторыя з гадзіннікам забывалася. Затое на вечар быў прызначаны матч на першынства суседніх вуліц! Адзіная перашкода паміж Сяргеем і салодкімі хвілінамі яднання з футболам — хатняе сачыненне. Але нават гэта заданне не псавала хлопцу святочнага настрою, хоць ён і не быў вялікім аматарам прыдумляць і разважаць на зададзеныя тэмы. Справа ў тым, што напрыканцы лета іх клас вазілі на экскурсію ў Наварасійск. Сяргея вельмі ўразіў подзвіг салдат, у гонар якіх у гэтым горадзе быў установлены помнік «Выбух». І таму ўпершыню ў жыцці хлопчык не адчуваў ніякіх цяжкасцей у напісанні сачынення. Нейкіх дзесяць хвілін — і сачыненне гатова! Ён задаволена, і нават з гонарам зірнуў на сябе ў люстэрка. «Так, а што там гаварыла Надзея Пятроўна? Акрамя асноўнай часткі ў сачыненні павінны яшчэ быць уступ і заключная частка… Ат, яшчэ гэтым галаву дурыць!» Сяргей схапіў сшытак і паімчаў на трэці паверх — да суседкі. Пончык, так усе звалі прыгожанькую ружовашчокую ўсме-

шлівую дзяўчынку, што была ўсяго на год малодшая за Сяргея, але з прычыны сваёй выдатніцкай сутнасці не адзін раз дапамагала яму з хатнімі заданнямі. Навошта ёй трэба было важдацца з чужымі заданнямі? Ды проста так, дзеля добрасуседскіх адносін. А можа, памятаючы ягоную дабрыню, калі, па даручэнні бацькоў, ён часцяком забіраў яе з дзіцячага садка.



— Пончык! Ратуй! Мне тут трэба ўступ і канцоўку хуценька зладзіць. Ты пішы, а я пакуль да Валодзькі падскочу — трэба сёе-тое наконт гульні ўдакладніць! — крыкнуў ён, урываючыся як віхура ў пакой і тут жа з яго знікаючы.

Што значыць для круглай выдатніцы ўступ і заключэнне да ўжо гатовага сачынення? Так, тры хвілінкі ў якасці размінкі.

Яшчэ праз пяць хвілін Сяргей зноў уляцеў у пакой.

— Гатова? — спытаўся ён, хапаючы сшытак.

— Даўно гатова, — з усмешкай адказала дзяўчынка. — Ідзі, перапісвай.

Хлопчык добра памятаў, як абяцаў бацькам, што матч адбудзецца толькі пасля таго, як будуць зроблены ўсе хатнія заданні. І сёння ён быў цвёрда намераны слова сваё стрымаць! Трэба ж выхоўваць сілу волі! Гэта будучаму футбалісту дакладна не зашкодзіць. І Сяргейка, прымасціўшыся на краёчак крэсла, хуценька ўзяўся перапісваць сачыненне ў чыставік.

А пасля было шчасце! «Нашы» перамаглі ў сяброўскай футбольнай сустрэчы 7:2. Нішто сабе вынік! А за Сяргеем замацавалася слава лепшага нападаючага каманды. Гэта вам не баран чыхнуў! Сачыненне было паспяхова здадзена на праверку. І шыбы ў наваколлі ўсё яшчэ былі цэлымі. Ужо каторы дзень. І настрой пераліваўся ўсімі колерамі вясёлкі. І ніадкуль не чакалася подвоху… Вось так і бывае заўсёды: непрыемнасці прыходзяць, калі іх зусім не чакаеш.

Перш чым раздаць вучням сшыткі з правераным хатнім сачыненнем, Надзея Пятроўна ўважліва зірнула на Сяргея.

— Устань, калі ласка!

«Цікава», — падумаў Сяргей, здаецца ж, нічога не натварыў. А па вачах настаўніцы відаць, што падымае не для таго, каб пахваліць.

— Сяргей, здаецца, ты ж разам з усім класам быў у Наварасійску?

— Ну, так, — зусім разгубіўся той. Што такое? Адкуль навала? Сачыненне ж здаў разам з усімі! — А што? — пасмялеў ён.

— А тое, што ніхто, акрамя цябе, не бачыў у Наварасійску помнік з назвай «Выбух у куратніку».

Клас грымнуў смехам. Ды такім заўзятым, што, здавалася, сцены школы затрэсліся.

— Пры чым тут куратнік, — абразіўся Сяргей. — Што вы здзекуецеся, Надзея Пятроўна?

— Падобна на тое, што гэта ты здзекуешся… І не сорамна!

Настаўніца паклала перад разгубленым хлопчыкам на стол разгорнуты сшытак.

— Чытай.

— Помнік «Выбух у куратніку», — прачытаў Сяргей, усё яшчэ не верачы ўласным вачам. Здагадка хутчэй маланкі мільганула ў галаве. «Ну, Пончык, трапішся ты мне!..» — унурыўшыся падумаў хлопчык. Што яму давялося выслухаць у той дзень! Ён і подзвіг народа не паважае, і на славу дзядоў, што за мірнае неба ваявалі, не зважае. Няпраўда! Паважае! Больш таго, уразіўся гэтым подзвігам так, што ажно сам сачыненне напісаў! Сам! Але што за сэнс апраўдвацца, калі сінім па белым у шырокую лінейку сшытка яго рукой было выведзена «Выбух у куратніку».

*Дыяметр арэны ва ўсіх цырках свету аднолькавы і складае 13 метраў, бо толькі па такім крузе цыркавы конь можа бегчы так, што яго спіна заўсёды застаецца пад патрэбным вуглом да цэнтра арэны. Гэта неабходна для выканання акрабатычных нумароў на конях.*

«Ну, Пончык, трапішся ты мне!..» — зноў і зноў пагрозліва паўтараў пра сябе хлопчык, цягнучыся дадому. А чаго яму было спяшацца? Парадаваць бацькоў запісам у дзённіку?

Ногі самі прывялі яго да дзвярэй дзяўчынкі. І не тое каб Сяргей марыў пабачыцца з ёй, але хаця б выказацца карцела вельмі.

— Ну, Пончык, не чакаў я ад цябе такога! — Сяргей ледзь стрымліваў абурэнне.

— Чаго ты не чакаў? — здзівілася суседка, якая, утульна ўладкаваўшыся на канапе, гартала «Бярозку».

— Праз цябе я столькі сораму і кпінаў сёння выцерпеў! А яшчэ давядзецца папрокі бацькоў слухаць! — і хлопчык разгарнуў свой сшытак.

— Цікава, а мая віна ў чым? Я табе ўступ і заключэнне напісала? Напісала. А калі ты памылак наляпіў, спісваючы, гэта ўжо твае праблемы.

— А ты лепш паглядзі! — настойваў Сяргейка.

Тая пільна глянула — і не змагла стрымацца. Звонка залілася смехам.

— Ты яшчэ і смяяцца з мяне будзеш! — абурыўся хлопчык, міжволі сціскаючы кулакі. — Эх, не была б ты дзяўчынкай, я б табе кухталёў надаваў бы!

— Ну так, я да тваёй назвы «Выбух» дапісала алоўкам «у куратніку». Дык гэта ж дзеля смеху. Няўжо ты, перапісваючы, не глядзеў, што пісаў?

— Я ж не думаў, што ты так можаш паздзекавацца, на футбол спяшаўся, — паныла адказаў хлопчык. Увесь яго ваяўнічы запал як рукой зняло. І праўда, каго тут вінаваціць? Але крыўда ўсё ж не адпускала.

— Ну, Пончык, трапішся ты мне!.. — вяла прыгразіў ён суседцы, не вельмі і ўяўляючы сабе расправу з гэтай ненаўмыснай шкодніцай, згроб са стала сшытак і пацягнуўся ў сваю кватэру.

Ну, і што б вы думалі, бацькі зусім не абурыліся паводзінамі Пончыка? Замест гэтага яны параілі Сяргею не быць такой разявай, бо за тое, што напісана яго рукой, ён павінен адказваць сам. «Зноў футбол табе не дае прыстойна вучыцца», — зрабілі выснову бацькі. Пакаранне было невыносна цяжкім. Яму забаранілі дзве гадзіны выходзіць з кватэры. «За парог — ні нагой!» — вось такі суровы прысуд атрымаў небарака.

А на двары — сонца, воля і сябры… Сяргей з зайздрасцю пазіраў на іх праз акно. Яны знайшлі цікавую забаўку: раскручвалі над галовамі абкручаны дротам яблык. І так спрытна ў іх гэта атрымлівалася, што хлопчык не сцярпеў.

— Я на хвілінку, — адразу папярэдзіў ён дружбакоў, калі тыя радасна прывіталі яго. — Я ж пад хатнім арыштам. Дайце разок крутануць.

Хлопчык узяў ямчэй у рукі драціну з яблыкам, прымерыўся, і я-яя-як крутануў!

— Дзынь! — бразнула вобземь шыба. І не абы-чыя, а настаўніцы геаграфіі, што жыла ў суседнім пад'ездзе.

Хлопцы застылі. Трэба ж: толькі што яны ўсе па чарзе круцілі гэтую драціну з замацаваным снарадам — і нічога. А варта было ўзяцца Сяргею — і яблык адразу паляцеў у акно.

Сяргей моўчкі кінуў на зямлю драціну і, апусціўшы галаву, панура пайшоў дахаты. Канешне, праз два дні шкоднік, які разбіў шыбу настаўніцы, быў знойдзены. Дарэчы, Сяргей сам прызнаўся бацькам, сябры яго не выдалі. Яны мужна бралі віну на сябе, бо шчыра спачувалі лепшаму нападаючаму. Яны, можа, паўгадзіны яблык той над галовамі круцілі — і хоць бы хны. А Сяргей ледзь узяўся — і шыба далоў. Але бацькі, ацаніўшы смеласць сынавага прызнання, не сталі гэтым разам караць яго.

— Можа, футбалістам стане!

***Мастачка Алеся ГАЛОТА***

## Перапынак




***Пачатак на старонцы 11***

# Бярозка

расці над сабой



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактары:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ, Ю.С. ВАЎЧОК
Мастацкі рэдактар:
А.У. ГАЛОТА
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк ??.09.2015 г.
Фармат 60х84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк.
Тыраж 908 экз. Заказ 933.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск





**Клуб сяброў часопіса**

*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*

Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія №1 (Свіслач, Гродзенская вобласць), гімназія №1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 25 (Мінск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 64 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 12 (Мінск), гімназія № 22 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), гімназія № 2 (Гродна), СШ № 32 (Магілёў), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён), ліцэй № 1 (Мінск), ліцэй № 2 (Мінск), гімназія № 35 (Мінск), гімназія № 16 (Мінск), СШ № 15 (Баранавічы), СШ № 38 (Мінск), Зажэвіцкая СШ (Салігорскі раён), СШ № 20 (Мінск), СШ № 10 (Барысаў), Асіповіцкая гімназія, Забалоцкая СШ (Воранаўскі раён), Вялічкавіцкая СШ (Салігорскі раён), гімназія № 61 (Мінск), СШ № 77 (Мінск), Сакалоўская СШ (Чэрыкаўскі раён), Уладзімір Міхайлавіч Голубеў (Мінск), Гезгалаўская СШ (Дзятлаўскі раён), гурток «Юны журналіст» (Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, Петрыкаў) гімназія № 23 (Мінск), СШ № 4 (Мар'іна Горка), клуб даследчых экспедыцый «Выток» (Мінск), Шчучынская гімназія, Слабадская СШ (Мядзельскі раён), Ялізаўская СШ (Асіповіцкі раён), Сакалоўская СШ (Чэрыкаўскі раён), СШ № 90 (Мінск), Суклінская СШ (Глыбокскі раён), Крупская гімназія, СШ № 3 (Нясвіж), Азёркаўская СШ (Мастоўскі раён), вучэбна-педагагічны комплекс «Дзіцячы сад-сярэдняя школа п. Шэршуны» (Мінскі раён), Мажэйкаўская СШ (Лідскі раён), СШ № 8 (Ліда).

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Даны ЦЮПЕРАК, Мінская гімназія-каледж мастацтваў.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Які востраў сам сябе называе часткай адзення?
**2.** Што ніколі не падманвае?
**3.** Электравоз ідзе на захад са скорасцю 70 км/г. Дзьме ўсходні вецер, скорасць ветру 20 км/г. У якім напрамку будзе ісці дым?
**4.** Чым можна падзяліцца толькі адзін раз?
**5.** На талерцы ляжала пяць персікаў для пяцярых хлопчыкаў. Кожны з іх узяў па персіку, але адзін персік застаўся на талерцы. Як такое магчыма?
**6.** Ён чорны, калі яго купляюць, чырвоны, калі выкарыстоўваюць, і шэры, калі яго выкідваюць.
**7.** Ляцелі тры пінгвіны. Паляўнічы аднаго падстрэліў. Колькі пінгвінаў паляцела далей?
**8.** У чатырохвугольнага стала адпілілі адзін вугал. Колькі вуглоў у яго стала?

---

*Маці сыну:*
*— Ты што, ужо ўсе цацкі зламаў, якія табе ўчора тата купіў?*
*— А вось і не ўсе! — адказвае сын. — Малаток застаўся!*




Неўрапатолаг задае чатырохгадоваму пацыенту пытанні:
— А колькі ў кошачкі лапак?
— Чатыры.
— А колькі ў кошачкі вушак?
— Два.
— А колькі ў кошачкі вочак?
— Два.
— А колькі ў кошачкі хвасткоў?
— Адзін. Мама, гэты дзядзька ніколі кошак не бачыў!

*У час вячэры малая дачка хоча штосьці сказаць маці.*
*— За сталом не размаўляюць! — строга абрывае яе маці.*
*Пасля вячэры маці пытаецца ў дачкі:*
*— Дык што ты мне сказаць хацела?*
*— Я хацела сказаць, мама, што ты на татавай кашулі прас уключаны пакінула.*

---




Мастак Пётр КОЗІЧ

## Падарунак ад Вожыка

Часопіс сатыры і гумару

**Адказы на пытанні для знаходлівых:**
1. Востраў Ямайка (я – майка).
2. Люстэрка.
3. У электравоза няма дыму.
4. Сакрэтам.
5. Апошні хлопчык узяў персік разам з талеркай.
6. Вугаль.
7. Пінгвіны не лётаюць.
8. Пяць.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# ЦАРКВА Ў БАРУНАХ






*Макет царквы ў вёсцы Баруны (Ашмянскі раён). Аўтар — Юлія Лушчэўская. Кіраўнік — Таццяна Васільеўна Вайтэнка.*

ISSN 0320-7579




Святыня Базыльянскага манастыра ў вёсцы Баруны, як піша знакамітая даследчыца храмавай архітэктуры Тамара Габрусь, з'яўляецца прыкладам цікавага спалучэння «брамкавага» фасада з вышыннымі дамінантамі ў сістэме віленскага барока. Ну, пра віленскае барока няхай раскажуць кнігі, а «Бярозка» проста раіць наведаць гэты храм, каб апынуцца ў 1692 годзе побач са святаром Мікалаем Песляком, які заснаваў тут уніяцкую царкву, пабудаваў манастыр, а пры ім — школку. Тут вучыліся Ігнацій Ходзька і Антон Эдвард Адынец — сябры Адама Міцкевіча.